ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

ВЫДАЕЦЦА З 1932 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 20 (2651) • Пятніца, 18 мая 1973 года • Цана 8 кап.



Гэтымі днямі, калі ў Маскве праходзіць IV з'езд мастакоў нашай краіны, кожны творца— жывапісец, скульптар, графік, майстар дэкаратыўна-прыкладнога жанру з яшчэ большай энергіяй дбае пра тое, як апраўдаць вялікае давер'е Камуністычнай партыі, усяго савецкага народа, як у новых буйных творах найбольш поўна і глыбока адлюстраваць вобраз сучасніка, будаўніка новага грамадства, чалавека камуністычнага заўтра.

Тэма рабочага класа — галоўная тэма савецкага мастацтва. Яму — класу-стваральніку і барацьбіту—прысвячаюць свае лепшыя работы і мастакі Савецкай Беларусі.

М. Моўчан. Сталявары (з серыі «Трактаразаводцы»).

●

В. Ткачук. Апалубшчыкі (з серыі «На будаўніцтве Лукомльскай ДРЭС»).



*Калгас імя Дзяржынскага. 3366 гектараў сельгасугоддзяў, у тым ліку 2225— ворнай зямлі. Двароў —623. Кошт асноўных сродкаў вытворчасці —2.543. 200 рублёў. Агульны даход —1.819.381 рубель. Чысты прыбытак —576.305 рублёў.*

(З калгаснай справаздачы за 1972 год).

# РАДАСЦІ І ТУРБОТЫ СТАРШЫНІ КАДЛУБОВІЧА

**М. ЗАМСКІ**

У ГОДЗЕ, здаецца, пяцьдзесят сёмым галоўны аграном калгаса імя Дзяржынскага Аляксандр Браніслававіч Бабіцкі атрымаў дзіўнаваты і нечаканы ліст з Рыгі. Пісаў Энгельгарт, з тых самых, некалі вядомых у Расіі Энгельгартаў — буйных памешчыкаў, палітыкаў і вучоных.

Былога старшыню Дзяржаўнай думы, які пасля рэвалюцыі пакалясіў эмігрантам па свеце і ў канцы трыццатых гадоў асеў у Рызе, прымусіў сесці за ліст да Бабіцкага артыкул апошняга ў газеце «Праўда» аб шляхах павышэння ўрадлівасці глебы. Аказалася, што паміж думскімі справамі былы барон займаўся яшчэ сельскай гаспадаркай, і яго маёнтак у Магілёўскай губерні быў па тым часе, як цяпер кажуць, высокарэнтабельным.

Энгельгарт падрабязна расказваў, колькі было ў яго зямлі, цягла, кароў, авечак, колькі ўносіў угнаенняў, які меў ураджай. У канцы ліста ён даваў аграному шэраг практычных парад па севазвароту, кампаставанню і ўнясенню ўгнаенняў, травасеянню і г. д.

Помню, Браніслававіч (так звалі ў калгасе агранома), яшчэ раз перачытаўшы ўголас пісьмо ў нас, у раённай рэдакцыі, заўважыў:

— Дзіўна, паўвеку прайшло, а помніць чалавек усіх сваіх авечак. Мо, стараэча, і зараз у снах бачыць сябе памешчыкам? Дзіўна, дальбог, дзіўна. А наконт парад, дык што ж...

Тут Бабіцкі ўзлез на любімага каныка. Быў ён зацятым прыхільнікам траваполнай сістэмы і мог пра яе гаварыць гадзінамі.

Калгас імя Дзяржынскага не толькі сеяў шмат канюшыны, але займаўся яе насенняводствам, меў з гэтага немалую карысць, бо па канюшыннае насенне сюды прыязджалі «купцы» з усёй рэспублікі.

Не забыць мне, мабыць, ніколі, як аднойчы з-за гэтай самай канюшыны схапіліся загрудкі аграном са старшынёй. Я прыйшоў на самы скандал і спачатку не мог зразумець, што да чаго. Пасля ўжо Браніслававіч расказаў. Аказалася, напярэдадні прыбег да яго брыгадзір і, выцягнуўшы з кішэні пук ссохлых галовак насеннікаў канюшыны, з якіх пачынала ўжо сыпацца ядранае насенне, папрасіў:

— Давайце хутчэй, Браніслававіч, камбайн з падборшчыкам. Не ўбяром заўтра, асыплецца гэткае золата.

Бабіцкі загадаў перакінуць камбайн. Хтосьці расказаў пра гэта старшыні. Цяпер той старшыня нябожчык ужо, і нядобра гаварыць благое пра нябожчыка, ды і зрабіў ён за свой век нямала для калгаса, але з песні слова не выкінеш — быў старшыня чалавекам ганарыстым і ўпартым, чужую ініцыятыву ўспрымаў як знявагу. Прыбег ён да канторы, як падсмалены, Тут, на двары, у прысутнасці дзесятка калгаснікаў пачаў сварыцца з аграномам.

У шасцідзесятым годзе, калі пачалася кампанія супраць траваполных севазваротаў, давялося Бабіцкаму перажыць нямала цяжкіх дзён. На сходах, у газетах прозвішча яго інакш не ўпаміналася, як у пары з мянушкай — траваполышчык. І калі прыйшоў загад заараць шматгадовыя травы, Браніслававіч паклаў старшыні заяву аб звальненні. Не мог чалавек сябе пераламаць.

Узялі ў калгас іншага агранома. Такога, што ўсякі загад кідаўся выконваць з першага слова. Сказалі б садзіць на гэтай зямлі бананы, садзіў бы...

З вясны 1962 года я не быў у тых мясцінах. І калі зараз, праз адзінаццаць гадоў, прыехаў сюды, адразу пацікавіўся, ці жывы-здаровы Бабіцкі. Сказалі, што даўно на пенсіі, а са здароўем так сабе...

І вось сядзім мы ў невялікім пакоі аграномавай кватэры і ўспамінаем, успамінаем... Браніслававіч, да слова, не вельмі змяніўся. Такі ж прамы, высокі, касцісты. Тыя ж іранічныя, колеру ільняной кветкі вочы, гучны голас. Праўда, толькі сівы зусім стаў, ні чарнінкі ў валасах.

Паспрабаваў падняцца з канапы, зморшчыўся ад болю, схапіўся рукой за паясніцу. Нягнуткімі нагамі прайшоўся па пакоі:

— Не ходзяць, браце, ногі мае...

Слухаю і робіцца мне сумна. Успамінаю, як гойсаў некалі аграном па палях. Калі на кані, калі і пехатою. Так, усё ў чалавека да пары...

Захацелася зрабіць яму прыемнае. Кажу, што ў калгасе шануюць былога агранома, удзячны яму за парады. Твар Бабіцкага святлее.

— Ну, якія там парады. У іх з канюшынай пару год нешта не ладзілася. Пасеюць, а ўсходы — каліва даганяе каліва. Прыйшлі да мяне, я ж (звузіў вочы) стары траваполышчык. Так, маўляў, і так, Браніслававіч, падкажыце. Распытваю, што за поле, як рыхтуюць насенне, сеюць. Аказваецца, без баронак сеялі. З-за гэтага яно, насенне, зверху заставалася. Каб яшчэ дажджы, дык мо прарасло б, а то, як на тое ліха, вёсны сухія выдаліся... Зрабілі, як параіў. Дык такая, паверыш, канюшына вырасла, што летась на адным полі ячмень пад сябе падабрала.

Кожны сапраўдны чалавек пакідае пасля сябе трывалы след. След, пакінуты Бабіцкім, бачны і сёння. У калгасе даюць свой плён уведзеныя ім севазвароты. І кампосты, што кожную зіму з краю ў край засцілаюць арцельныя палеткі, складаюць і зараз асобым, ачаговым спосабам, які ў свой час прапанаваў ён, Бабіцкі. І поўныя кармушкі канюшыннага сена (пры мне хлапчына-скотнік, узяўшы з кармушкі жменю канюшыны, ад якой ішоў густы мядовы дух, паднёс яе да твару, шумна ўцягнуў носам паветра і, смеючыся вачыма, вымавіў: «Эх, сам бы з'еў, ды каровам трэба») — таксама рэха яго, былога агранома, турбот.

Я пра ўсё гэта нагадаў таму, што, ўзышоўшы на новую прыступку, мы часам забываем пра тых, хто гэтую прыступку ладзіў... Вось чаму першыя старонкі свайго расказа пра калгас я прысвяціў Аляксандру Браніслававічу Бабіцкаму.

ЛЯЖЫЦЬ на далоні пшанічнае зернетка. Маленечкае, здаецца, зусім без вагі. А кінь зернетка ў зямлю і адбудзецца ў ім цуд, такі знаёмы і звычайны, і ўсё ж такі сапраўды цуд. Праклюнецца зернетка, пусціць зялёны парастак і праз колькі часу выкіне колас. Толькі які ён будзе той колас — пуставаты ці важкі?

Вось праблема, над якой б'ецца чалавецтва тысячы гадоў. Расшчапіў чалавек атам, вынайшаў лазер і электронна-вылічальную машыну, а звычайнае зернетка не вельмі даецца ў рукі. Ні ў якой з навук не было, мабыць, такой калатні думак, нідзе так не хапаліся за чубы, як у аграрнай. Нідзе не было зроблена столькі «адкрыццяў», якія выдаваліся за панацэю ад усіх бядот, як тут. Жывыя ў нашай памяці і монакультуры, і абавязковыя квадратна-гнездавыя пасадкі бульбы, і цудадзейныя роставыя рэчывы з нафты і г. д. Толькі не зрушылі яны возу з месца. Але ж зараз нешта зрушыла? Калгас імя Дзяржынскага сёння збірае ў два з паловай разы больш збожжа, у два — бульбы, у столькі ж—гародніны, чым 8—10 гадоў назад.

Зразумела, павялічыць ураджай з пяці цэнтнераў да дзесяці — невялікае дзіва. Бо пяць цэнтнераў, гэта і не ўраджай — гора адно. Але скокнуць з 15 да 35 цэнтнераў, прама скажам — здорава! Тое самае з бульбай. Летась сабралі яе па 203 цэнтнеры супраць 107 у 1961 годзе.

...З мясцовым старшынёй Леанідам Іванавічам Кадлубовічам стаім на ўскрайку ладнага палетка, на якім ідзе сяўба яравой пшаніцы.

Толькі што агрэгат заправіўся насеннем і цяпер пацІху пыліць у процілеглы край поля. Кідаю ў зямлю сваё зернетка і я. Успамінаю, што некалі не раз быў на гэтым полі. Чым яно сёння не такое? Такая ж пульхная, добра ўскалыхнутая цёмна-карычневая ралля (у калгасе скрозь суглінкі). Не рукамі — трактарамі сеялі і тады. Чаму ж маё зернетка сёлета дасць у два-тры разы больш важкі колас? А мо сапраўды нечага не ведаў шаноўны Аляксандр Браніслававіч Бабіцкі? Мо дарма лічылі яго адным з лепшых аграномаў на Міншчыне?

Увечары таго ж дня сустрэўся я з Іванам Забіяшавічам Нупрыкам. Іван Забіяшавіч, фігура, можна сказаць, легендарная, і пра яго варта расказаць падрабязней. У калгасе ён з дня арганізацыі — недзе з дваццаць дзевятага ці трыццатага года. Брыгадзірам быў яшчэ да вайны, у 1940 годзе нават удзельнічаў на Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы. Калі пачалася вайна, атрымалася, што Нупрык застаўся ў калгасе за галоўнага і з прыходам акупантаў так распараджаўся калгаснай маёмасцю (пахаваў па людзях), што гітлеўцам засталася дуля з макам.

Асабліва славілася імя Івана Забіяшавіча ў шасцідзесятых гадах. Медалёў з выстаўкі ў яго — не пералічыць. На нейкае свята, помню, сустрэў, дык вочы запляшчыў ад бляску, што ішоў ад Нупрыкавых грудзей.

Росту Іван Забіяшавіч вышэй сярэдняга, хударлявы, твар смуглявы, цыганаваты, на буйным носе нязменныя круглыя акуляры. Норавам ён ціхі, але, як некалі казалі ў калгасе, «прынцыпіяльны».

Бывала, таго-сяго брыгадзіра ганілі толькі за глотку — у каго мацнейшая, той, значыцца, за справу бярэцца лепш. Але ніколі ніхто не чуў, каб на каго ўзвысіў голас Нупрык. Усё пацІху, усё па згодзе. А была ягоная брыгада лепшай у раёне. У тыя, ой, нялёгкія гады, збіраў Іван Забіяшавіч па 14—15 цэнтнераў збожжа, ды 150—160 бульбы. Па тым часе — дай бог!

Некалькі гадоў назад выйшаў Нупрык на пенсію, але калгаса не кінуў, папрасіўся ўчотчыкам-нарміроўшчыкам у трактарную брыгаду.

— Дык, кажаш, не тая зямля стала ў калгасе? — Іван Забіяшавіч здымае акуляры і доўга выцірае іх насоўкай. — Зямліца тая і людзі тыя самыя. Ды стратэгія змянілася, адносіны змяніліся. Помню, гадоў некалькі назад — я яшчэ брыгадзірам быў, — разнеслася чутка, што на станцыю прывезлі аміячную салетру. Па разнарадцы калгасу нешта тон дзесяць прыпала. А што яны, дзесяць тон, на дзве тысячы гектараў зямлі? Дык быў у мяне крыху знаёмы кладаўшчык на той станцыі. Дамовіўся я з ім (за паўлітра, вядома), што дасць нам сабраць паскробкі. Уначы, каб іншыя не апярэдзілі, паехалі мы на станцыю пяццю параконкамі ды тоны з дзве той салетры напалам са смеццем ухапілі. Колькі радасці было! А зараз? Зараз калгас гэтых угнаенняў сотнямі тон атрымлівае. А аміячнай вады? Колькі не выліваецца пад пасевы, дык і не злічыш. Ці дзіва, што зямля па-іншаму радзіць пачала. Цяпер паглядзім на справу з другога боку. — Нупрык падсунуў да сябе лічыльнікі. І адбіў дзве касцяшкі. — Чым мы раней вывозілі на палі ўгнаенні? Конямі. Паспрабаваў аднойчы папрасіць у старшыні трактар, дык ён так вызверыўся, — не рады быў, што і гаворку пачаў.

— Або ўзяць тую ж бульбу, — працягваў Іван Забіяшавіч. — Усё рабілі конямі. Конямі садзілі, конямі абганялі, конямі капалі. Як пачыналася ўборка, дык цягнулася без канца. А колькі бульбы заставалася ў зямлі — не паспявалі перакапаць з-за ранніх прымаразкаў. А зараз знайдзі каня і на бульбяным палетку! Не тое, што капаць, — варыць бульбу развучыліся рукамі. Вунь, зірні (Нупрык паказаў у акно, за якім бачны быў стан машынна-трактарнай брыгады) на тыя дзве жоўценькія машыны. Здагадайся, на што яны?

— Не ведаю,—шчыра прызнаўся я.

— Вось і я не мог уцяміць спачатку. Думаў, — усміхнуўся, — нейкая атамная ўстаноўка. Аказалася, што яшчэ мудрэйшая, дальбог. Бульбу перапрацоўвае. Падвязуць да яе бульбачку проста з поля, як ёсць — з зямлёй, з граззю. Машына гэту бульбу адмывае да чыстага, становіцца кожная бульбіна, што тое яечка. Потым варыць яе, таўчэ, затым тую таўчанку закладвае ў абліцаваную траншэю. Там яе закрываюць плёнкай і прысыпаюць зямлёй. Захоўваецца тая бульбяная каша колькі хочаш. Трэба — узяў. Леташняй восенню такога пюрэ нарыхтавалі для ферм больш за 700 тон. Я нядаўна для цікавасці паспы-

(Працяг на 14-й стар.).



Пятрусь МАКАЛЬ



# ТАБЕ, БАЦЬКОЎСКАЯ ЗЯМЛЯ

*Агнём хрышчоны, кулямі апеты,*
*Цябе, мой край, пазнаю і здаля:*
*Лісток кляновы на баку планеты,*
*Любоў і боль — бацькоўская зямля.*
*Будзь блаславёны кожны твой куток,*
*Прастор былінны ад Дзвіны да Сожа,*
*І Белавеж, і Нарач, як глыток,*
*Што наталіць тугу па моры можа.*
*І цытадэль над Бугам, дзе ў сінечы*
*Нясе паданні дымная вада*
*Аб тым, як тут налегла нам на плечы*
*Вялікая айчынная бяда.*
*І купка ўдоў-сасёнак на пагорку,*
*Куды мой бацька;дзіўны чалавек,*
*Стаміўшыся шукаць у небе зорку,*
*Як у падполле, адышоў навек.*
*І бель садоў, што слепіць вочы ўночы,*
*І бусел, што клякоча над гняздом...*
*Зямля, куды пясчынкаю аднойчы*
*І я вярнуўся, як у родны дом.*
*Даруй, што я дагэтуль не паспеў*
*Табе прызнацца, каб усе пачулі.*
*І ці сыны клянуцца нараспеў*
*У пачуцці да ўласнае матулі?*
*Хоць быў з табой і ў шчасці, і ў журбе,*
*Я не ўзлятаў на той таропкай хвалі,*
*Дзе, як наперагонкі, рыфмавалі*
*Сваю любоў грыбную да цябе.*
*Хіба аздобіш родную зямлю*
*Зіхотным словам, як партрэт аправай?*
*Сваёю кожнай чалавечай справай*
*Хачу сказаць табе сваё «люблю».*

## МІНЫ

Амерыканскім мінёрам у В'етнаме.

*Якія ў вас на тварах міны,*
*Які агонь душу пячэ,*
*Калі здымаеце вы міны,*
*Што ўчора ставілі яшчэ?*
*Згубіў ужо свае правы*
*Пірацтва вопыт непатрэбны —*
*Здымайце сорам той ганебны,*
*Якім сябе пакрылі вы.*
*Тут смерць, што дрэмле ў глыбіні,*
*Бабахнуць можа ў міг адзіны.*
*Як кажуць, пры благой гульні*
*Не зробіце вясёлай міны...*
*Заслон варожасці і зла,*
*Які вы ўзводзілі старанна,*
*Паў ад народнага тарана —*
*Вы бачыце, чыя ўзяла?*
*Праз джунглі грому і метала*
*Дарогай горкіх ран і страт*
*У час даходзіў, што б ні стала,*
*Да друга друг, да брата брат.*
*Хто там употайкі яшчэ,*
*Люляючы вайны ўспаміны,*
*На сцежках згоды ставіць міны,*
*Сіло для новай змовы тчэ?*
*Давайце поле душ праполем*
*Ад зла былога спакваля,*
*Каб непраходным мінным полем*
*Не стала заўтра ўся зямля.*
*Хай адступае небяспека*
*На трасах сушы і вады,*
*Каб чалавек да чалавека*
*Ішоў бязбоязна заўжды!*

●

*Я свой былы спакой раскалышу,*
*Я спакушу сябе прыходам свята.*
*Хай прымушае трапятаць душу*
*Чаканне свята,*
*як чаканне свата.*
*Будзь блаславёны шчодры той парыў,*
*Разбег таго шчаслівага азарту,*
*Калі здаецца ўсё, што ты стварыў,*
*Не больш, як пачатковы крок да старту.*
*Трыумфу шчасця непазбежны цуд*
*Ужо зматае з небасхілу хмары.*
*Не, на яго я не малюся тут —*
*Ляплю па ўзору чалавечай мары.*
*Маёй удачы птушка не ўцячэ,*
*І я пакутам палявання рады.*
*Усе мае ўрачыстыя парады*
*Наперадзе, наперадзе яшчэ.*
*Хіба не нам гадуюць свята будні?*
*Каб наталіць тугу па вышыні,*
*Ты па-зямному пакланіся студні,*
*Вядром з яе сузор'е зачарпні.*
*І лёс людзей, і рэчышча падзей*
*Акрэслівай натхнёна і чаканна*
*Сваім святлом, як добры чарадзей.*
*Высокае напружанне чакання.*

# ВІНШУЕМ З ЮБІЛЕЕМ!



**Споўнілася 50 гадоў з дня нараджэння пісьменніка Віктара Трыхманенкі. З гэтага выпадку праўленне Саюза пісьменнікаў Беларусі накіравала юбіляру прывітанне, у якім гаворыцца:**

**«Дарагі Віктар Фёдаравіч!**

**Горача вітаем Вас і шлем свае віншаванні ў дзень Вашага пацідзесяцігоддзя. На пачатку Вялікай Айчыннай вайны Вы сталі ў рады Савецкай Арміі, былі лётчыкам-знішчальнікам.**

**Пасля вайны дэмабілізаваліся, але з 1950 года Вы зноў верна нясеце вайсковую службу, з'яўляецеся ўласным карэспандэнтам газеты «Красная звезда» па Беларускай ваеннай акрузе.**

**У 1955 годзе ў часопісе «Советский воин» было надрукавана Ваша першае апавяданне «Талант». З таго часу Вы стварылі нямала цікавых твораў, якія прыхільна сустрэты чытачамі і крытыкай. У Вашых апавяданнях і аповесцях моцна гучыць вайсковая тэма. Вамі створаны запамінальныя вобразы і характары савецкіх лётчыкаў, услаўлены іх гераічныя подзвігі ў барацьбе з фашызмам, расказана, як у мірны час яны нясуць службу, павышаюць баявую і палітычную падрыхтоўку.**

**Мы рады адзначыць, што да свайго юбілею Вы прыйшлі ў творчым росквіце, поўныя сіл і дзярзанняў.**

**Жадаем Вам, дарагі Віктар Фёдаравіч, плённай працы на ніве журналістыкі і ў літаратуры, актыўнай грамадскай дзейнасці, добрага здароўя, шчасця».**

**20 мая пісьменніку Анатолю Кузьмічову спаўняецца 50 гадоў. Праўленне Саюза пісьменнікаў Беларусі накіравала юбіляру прывітанне, у якім гаворыцца:**

**«Дарагі Анатоль Пятровіч!**

**У дзень Вашага пяцідзесяцігоддзя прыміце ад нас, Вашых калег па пяру, шчырае сардэчнае віншаванне.**

**Вы вярнуліся з Вялікай Айчыннай вайны, у якой прынялі актыўны ўдзел, і з добрым жыццёвым набыткам пачалі працаваць у літаратуры. Спачатку пісалі нарысы, вершы, апавяданні, якія прысвячалі паказу воінскага подзвігу салдата, жыццю нашага сучасніка.**

**Пасля пачалі асвойваць жанр драматургіі, напісалі п'есы «В нашем полку», «Возвращение», «Орлиный перевал», якія з поспехам ішлі на сцэнах многіх тэатраў краіны.**

**Вас ведаюць чытачы і як цікавага і здольнага празаіка. У сваіх аповесцях і раманах — «Юго-Запад», «Тревога», «Смена караулов», «Одиннадцатый класс» — Вы стварылі запамінальныя вобразы салдат і афіцэраў Савецкай Арміі, расказалі пра іх лёс, загартоўку характараў як у час вайны, так і ў мірны перыяд, паказалі вытокі мужнасці савецкіх людзей у барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі.**



**Прыемна адзначыць, што Вы актыўна працуеце і ў галіне перакладу твораў пісьменнікаў братніх рэспублік на рускую мову.**

**Жадаем Вам, дарагі Анатоль Пятровіч, далейшага росквіту Вашага таленту, новых кніг, добрага здароўя, шчасця!»**

**Рэдакцыя штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» далучаецца да гэтых віншаванняў і жадае юбілярам новых творчых поспехаў.**

**РЭДАКЦЫЯ атрымала ліст ад вучня 7-га «В» класа 35-й сярэдняй школы г. Гомеля Міхася Арцёмава. Ён піша:**

**«Я нядаўна прачытаў кнігу Алеся Шашкова «Навальніца спее ў цішыні». Кніга мне вельмі спадабалася, гэта — аповесць пра Вялікую Айчынную вайну, пра сумесныя дзеянні разведчыкаў Савецкай Арміі і беларускіх партызан.**

**З захапленнем чытаеш пра гераічныя подзвігі беларускіх партызан, камсамольцаў. Вельмі спадабаўся мне партызанскі разведчык Мікола Скакун, які змагаўся і загінуў як сапраўдны герой.**

**Кніга заканчваецца тым, што разведчыкам і партызанам удалося ажыццявіць адказную і рызыкоўную аперацыю па перапраўцы грошай і каштоўнасцей на Вялікую Зямлю.**

**Вельмі хочацца даведацца пра далейшы лёс герояў рамана, капітана Крамнёва і іншых. Прашу перадаць пісьменніку просьбу маю і маіх сяброў, чытачоў Гомельскай абласной бібліятэкі, расказаць на старонках вашай газеты, ці не мяркуе ён напісаць працяг той кнігі, якая нам так падабаецца».**

**Рэдакцыя адрасавала просьбу юных чытачоў Алесю Шашкову. Пісьменнік перадаў рэдакцыі ўрывак з другой кнігі рамана. Яна будзе называцца «Ноч на Высокай выспе». Прапануем увазе чытачоў урывак з другой кнігі рамана Алеся Шашкова.**



Алесь ШАШКОЎ

# ВЫСОКАЯ

...РАБОЧЫ СТОЛ, стрэльба і вуда даўно прывучылі Васіля да адзіноты. Ён мог тыднямі не выходзіць з кватэры, забываючыся пра ўсё на свеце. Мог некалькі дзён запар блукаць па лесе ці сядзець у лодцы, спаць там, дзе яго сустракала ноч. Адзінота ніколі не прыгнятала яго, ён прымаў яе, як радасны і прыемны дар.

А вось сёння, апынуўшыся на выспе, што згубілася ў нетрах Ціхаланьскіх лясоў, у надзейным, трывалым бліндажы,—засумаваў. І нават не сум, а цяжкая туга раптам агарнула яго сэрца.

Што ўстрывожыла, што вывела яго з раўнавагі? Шкадаванне, што не пашанцавала паляцець разам з сябрамі? Ці, можа, думка пра тое, што не ўдасца адшукаць партызан, выбрацца з гэтых бяскрайніх лясоў? Не, ні тое, ні другое яго не трывожыла. З сябрамі ён сустрэнецца потым, а партызан адшукае, бо прыкладна ведае, дзе яны будуць.

Вярэдзіла сэрца нешта зусім іншае. Яно, гэта нешта, узнікала ў самай глыбіні душы і, нарастаючы, усё цяжэй і цяжэй навальвалася на сэрца, прымушала яго балюча і прыкра ныць.

Сашчапіўшы за спіной рукі, Крамнёў цяжка ступаў па «адсеку», думаў, але былі тыя думкі бязладныя, уроскід. Яны нагадвалі шматгалосы гоман, якім поўніцца цесны пасажырскі вагон у час шумнай хапатлівай пасадкі.

Нарэшце, яму надакучыла хадзіць, абрыдла разблытваць думкі, і ён, адшукаўшы ў цемры лесвіцу, падняўся наверх, на выспу.

Была ўжо ноч. Поўня, белая і чыстая, як адпаліраваная медная міска, стаяла проста над выспай.

Прыслухоўваючыся да цішыні, да трывожнага стуку ўласнага сэрца, Крамнёў асцярожна пераходзіў ад адной варонкі да другой. Ён яшчэ не разумеў, чаго шукае, але ўпарта ішоў усё далей і далей, напружана прыглядаючыся і прыслухоўваючыся.

І раптам спыніўся. Перад ім зеўрала глыбокая яма, з якой тырчалі пасечаныя асколкамі бярвенні.

«Зямлянка радысткі...» Крамнёў уздрыгнуў. Ён бачыў глыбокую яму, вывернутыя, пасечаныя асколкамі бярвенні, залітыя густым мёртвым святлом. Нясмела ступіў на край ямы, зірнуў уніз.

І тут, у адно нейкае імгненне, Васіль зразумеў, адкуль узялася тая туга, той невыказны сум. Яна тут, маладая радыстка, яго першае каханне. Вось пад гэтым, знявечаным бомбай бярвеннем. Каля маленькага акенца стаяў яе столік. На ім—радыёстанцыя. А вунь ля той сцяны, што насупраць уваходу, быў ложак. Не ложак, а звычайныя нары, але як былі яны па-жаноцку дагледжаныя, прыбраныя!..

Дзе напаткала Соню смерць? У час адпачынку? Ці за рабочым сталом, калі яна перадавала шыфроўку ў Цэнтр пра тое, што брыгада акружана? І няўжо яна так і застанецца тут, у гэтым разбітым бліндажы, пад гэтым ламаччам? Не! Ён зараз жа возьме рыдлёўку і раскідае гэта пасечанае асколкамі бярвенне. А потым пахавае яе на беразе ракі пад маладымі бярозамі, якія так падабаліся Соні заўсёды...

Месяц яшчэ не схаваўся—пачало ўзыходзіць сонца. Чыстае, дбайна вымытае халоднай расою, яно нейкі час краёчкам вока пазірала з-за лесу на выспу, на чалавека, які ўпарта валтузіўся з тоўстымі бярвеннямі.

Нарэшце, Крамнёў адкінуў адно бервяно ўбок: пад яго нагамі зеўраў чорны правал. Ён змахнуў з ілба густы пот і—ступіў уніз. Цікаўнае



# ВЫСПА

сонца зразу ж нырнула следам за ім, і Крамнёў убачыў тую, дзеля якой гатовы быў на ўсё...

Яна ляжала на спіне, раскінуўшы рукі. Густыя залацістыя валасы яе рассыпаліся на падлозе, вочы былі заплюшчаны, нібы іх толькі што патрывожыла нясцерпна яркае сонца. А над ёю, упёршыся адным канцом у сцяну, другім—у падлогу, вісела цяжкое жоўтае бервяно. Пад цяжарам абвалу яно крыху сагнулася, але—устаяла.

«Соня... Родная...»—Крамнёў дрыготкай рукой крануўся валасоў радысткі і—адхіснуўся. Усё тое ж цікаўнае сонца нечакана асвяціла твар дзяўчыны, яе аголеную шыю, і Васіль выразна ўбачыў, як б'ецца-пульсуе пад матава-белай дзявочай скурай тонкая, празрыста-сіняя жылка.

Не радасць, нейкі дзікі жах ахапіў Крамнёва. Скамянеўшы, ён глядзеў на гэтую жывую, трапяткую жылку і адчуваў, як сэрца яго шалёна калоціцца, што яшчэ момант, і яно не вытрымае...

«Божа, не ашукай!—упершыню ў сваім жыцці маліўся ён.—Не ашукай...»

А тонкая жылка на шыі дзяўчыны білася больш упэўнена і вясёлае сонца ўжо ва ўсю ўдарыла пад развалiны бліндажа! Яно нібыта расчэсвала залатыя дзявочыя валасы, песціла яе твар, і ён, сагрэты цяплом і пяшчотай, святлеў, ружавеў, ажываў!

Ён асцярожна нахіліўся бліжэй да радысткі, нясмела крануўся яе рукі. Рука была цёплая, мяккая.

Не памятаючы сябе ад радасці, Крамнёў падняў на рукі радыстку і кінуўся прэч з бліндажа. Ён азіраўся, нібы баяўся, што вось-вось нехта выскачыць з тае чорнай магілы, кінецца наўздагон...

Апрытомнеўшы, Соня са страхам і здзіўленнем глядзела на яго шырока раскрытымі вачыма, а ён ішоў і ішоў, аж пакуль не апынуўся на беразе Лані, пад тымі ж маладымі бярозамі, дзе ўжо збіраўся пахаваць Соню...

●

Вайна, як і ўсякая катастрофа, што раптоўна кідае ў свой вадаварот мільёны і мільёны людзей, багатая на выпадкі, якія па сваёй неверагоднасці могуць спрачацца з самай смелай фантастыкай. З вышыні тысяч метраў падае на зямлю падбіты самалёт, а цяжка паранены лётчык, які не змог пакінуць кабіну, застаецца жывы...

Так, тысячы самых неверагодных выпадкаў парадзіла вайна. І ўсё ж... усё ж Крамнёў доўга не мог зразумець, як уратавалася яна, Соня Кавалёва? Бомба ўпала побач з бліндажом, раскідала ўсе чатыры накаты, пагнула рэйкі, раструшчыла шматпудовыя валуны, а радыстка, слабая дзяўчына, кволае сэрца якой сцерагла толькі салдацкая гімнасцёрка, ляжыць вось на зялёнай траве, пад зялёнымі бярозамі, не кранутая ніводным асколкам! Што гэта? Дзіва? Сон?

Крамнёў паклаў сваю гарачую руку на Сонін лоб. Соня ўзяла яе ў свае рукі і ціха прыціснула іх да грудзей. І ён выразна адчуў, як роўна і моцна б'ецца маладое ўпартае сэрца.

— Ну, Соня, жыць табе тысячу год.— спрабуючы ўсміхнуцца, гаворыць капітан, а вочы яго туманяць слёзы.

Соня прыціскае яго руку мацней, доўга глядзіць на бярозкі, што абступілі яе карагодам, глядзіць на высокае неба і раптам прыўзнімаецца. Па яе вачах, па трымценню ўсяго яе цела Крамнёў бачыць, што ёй цяжка, што ў яе кружыцца галава. Ён цягнецца, каб падтрымаць яе, але Соня імгненна хапаецца рукамі за тонкі ствол бярозкі і ўстае на ногі. Ногі яе дрыжаць, як у маленькай, толькі што народжанай ланi, а неспакойныя вочы нешта хапатліва шукаюць. Нарэшце яны знаходзяць яго, Крамнёва, і Крамнёў бачыць у іх цёмнай глыбіні бязмежную радасць і стомленасць, невымяральную прагу жыцця.

— Што ты робіш?!—кідаецца ён да Соні і беражна падхоплівае яе, паднімае на рукі.—Хіба так можна?

Ён ідзе назад, на выспу, да свайго бліндажа. Соні патрэбен спакой. Зараз ён напоіць яе гарачым чаем і пакладзе спаць. Ёй трэба спакой. Цяпло і спакой. Асцярожна кладзе яе на нары, накрывае салдацкай шэрай коўдрай, доўга сядзіць побач, напружана ўглядаючыся ў такі знаёмы твар дзяўчыны. Кожная рыска на ім, гэтым антычным, як жартавалі ў інстытуце, твары набыла нейкае ледзь улоўнае адценне. На чыстым высокім ілбе прарэзалася глыбокая складка, густыя цёмныя бровы хваравіта сышліся... Некалі пульхныя, ярка-ружовыя вусны пабялелі, нервова ўздрыгвалі. Крамнёву здавалася, што зараз радыстка ўсхліпне, заплача горкім, здушаным плачам.

Дакрануўшыся рукою да яе цёплых валасоў, ён ціхенька ўстаў і выйшаў з «адсека».

Ішоў ён наўпрост, абы куды, а калі спыніўся, то зноў убачыў перад сабою тую ж глыбокую чорную яму, якая ледзь-ледзь не стала для Соні магілай. Доўга глядзеў на бярвенне, разварочанае выбухам бомбы і яго, Крамнёва, рукамі, глядзеў уважліва, засяроджана, нібы нешта хацеў прачытаць на парэпанай, скляванай асколкамі, кары.

Потым Крамнёў пачаў спускацца ў разбураны бліндаж. Там, пад абломкамі дрэва і каменія, ляжалі Соніны рэчы, стаяла радыёстанцыя. Усё гэта трэба знайсці і забраць. Асабліва радыёстанцыю.

...Радыёстанцыя была раструшчана бервяном, раструшчана разам са столікам, на якім стаяла. Затое многія іншыя рэчы аказаліся цэлыя. Пад забуранымі нарамі ляжаў ранец. На сцяне, над нарамі, вісеў аўтамат і запасны дыск у чахле.

Крамнёў начапіў на спіну ранец і аўтамат, акуратна згарнуў Соніну пасцель, перавязаў яе кавалкам тэлефоннага провада.

Калі ён вярнуўся ў бліндаж, Соня ўжо не спала. Яна сядзела на нарах і спалохана азіралася.

— Ну, дзе ты быў!—з адчаем і дакорам усклікнула яна, убачыўшы на парозе Крамнёва.—Куды ты так доўга хадзіў?!

— Ды вось, прынёс твае рэчы,—спакойна адказаў Крамнёў.—А ты што, спалохалася, што пакіну адну?

— Канечне, спалохалася! Прачнулася, а тут—ні душы. Я ледзь не закрычала... Сядзь, пасядзі са мною.

Крамнёў кінуў на нары хатуль, паклаў на стол аўтамат. Соня ціха прыхілілася да яго пляча. Цела яе дробна дрыжэла.

— Супакойся,—асцярожна абняў яе плечы Васіль.—Цяпер баяцца няма чаго. Мы тут з табою адны, як Рабінзон з Пятніцай на тым бязлюдным востраве...

— Я так... Трасе нешта...—Соня золка перасмыкнула плячыма, хапатліва схавала ў рукавы гімнасцёркі бледныя рукі, зноў асцярожна абвяла вачыма прасторны «адсек». У кожным яе руху, у кожным позірку адчувалася якаясьці няўпэўненасць, нейкі глыбокі страх, які яна хацела і не магла падавіць.

— Ты мусіць галодны?—раптам прамовіла Соня, зірнуўшы ў вочы Крамнёву.—Паглядзі ў маім рэчмяшку. Там тое-сёе павінна быць.

Васіль развязаў ранец і весела свіснуў:

— С-соня! Ды тут жа ў цябе цэлы склад пэфээс! Тры банкі кансерваў, кавалак сала. А сухароў, сухароў колькі!

— Гэта нашы разведчыкі... Кожны дзень штонебудзь прыносілі... Цукар ёсць?

— Ёсць, ёсць! Нават соль ёсць. Бягу за вадой!

Пасля абеду Соня адразу ж уладкавалася на нары. Чай не сагрэў яе. Балела галава, раз-пораз халодныя мурашкі прабягалі па целе, а ў вялікіх цёмных вачах мігцеў неспакойны бляск.

Васіль паклаў руку на гарачы Сонін лоб, нахмурыўся.

— Відаць, прастудзілася, — вінавата прызналася Соня, глыбей забіраючыся пад коўдру.— У грудзях—нібы хто лёду насыпаў. А рукам чамусьці горача...

Яна заплюшчыла вочы, крыху памаўчала, ціха дадала:

— І ў вушах звініць. Тонка-тонка, і ўсё на адной агіднай, пранізлівай ноце... Чаму?

Крамнёў уздыхнуў. Усё гэта яму было знаёма. Усё гэта ён пазнаў, перажыў сам. Тады, яшчэ ў сорак першым, на канапляным полі, а потым, у пуні, на леташнім сене, дзе ляжаў паранены і кантужаны выбухам цяжкога снарада.

— Засні. Гэта...

Крамнёў асекся. Прыгожы Сонін твар імгненна пабялеў, стаў попельна-шэры, а на ілбе выступілі кропелькі поту.

— Соня, што з табою?!—схапіў ён рукі дзяўчыны.

— Н-нічога, так... Пройдзе... — Яна прагна глытнула паветра, яшчэ мацней заплюшчыла вочы.

— Даць вады?

— Не трэба. Прайшло...—Соня глыбока ўздыхнула, ціха вызваліла рукі, паклаўшы іх на грудзі. Доўга ляжала нерухома, потым рэзка села, прыпала шчакой да грудзей Крамнёва і горача, задыхаючыся, зашаптала:

— Вася! Як страшна быць пахаваным жывым! Як страшна! Прачнулася, а кругом—чорна. І так ціха! Я яшчэ ніколі не чула такой цішыні, я нават не ўяўляла, што яна... такая... ёсць. Разрывае вушы! Ты ўяўляеш? Цішыня разрывае вушы! Аж стыне кроў, зусім няма чым дыхаць. Я хацела закрычаць, паклікаць каго на дапамогу, і —не пачула ўласнага голасу. Цішыня раздушыла яго!

— Не трэба, Соня...

— А больш я нічога і не помню. Цішыня раздушыла і мяне. А калі я ачомалася зноў, то ўбачыла цябе. І прастору. Столькі прасторы, што ад радасці ледзь-ледзь не разарвалася сэрца.

Яна прыціснула да сваіх гарачых вуснаў рукі Васіля і пачала прагна іх цалаваць.

— Прашу цябе, не трэба!—асцярожна вызваляючы рукі, паўтараў Крамнёў.—Засні. І ўбачыш, што ўсё пройдзе, стане лепш. Засні!..

— Добра. Я зараз. Толькі...—Яна зноў асцярожна азірнулася, зірнула на цяжкое рыжае бярвенне накату, што нізка вісела над ёю, ціха прашаптала:—толькі не тут. Пасцялі мне там, наверсе, пад якім-небудзь дрэвам.

— Ды ты што? На нарах жа цяплей. Ночы яшчэ халодныя.

— Прашу, пасцялі. Баюся я. Вось гэтых бярвенняў баюся. Так і здаецца...

— Ну добра, добра, хадзем.

Ён пасцяліў ёй на крутым беразе Чорнага возера, пад разгалістым дубам...

— Не хвалюйся, на выспе ціха,—супакоіў яе Васіль і асцярожна спытаў:—Ты не помніш, дзе твае карты?

— Якія карты?

— Палявыя. Карты-дзвюхвёрсткі. Яны ў цябе былі?

— А-а! Яны ў маёй сумцы.

— А дзе сумка?

— А ты хіба яе не прынёс? Яна вісела на сцяне, над нарамі.

— Не бачыў. Ну, ды ладна, пашукаю.

Вярнуўся ён гадзіны праз дзве, запэцканы глінай і смалою, мокры ад поту, але, здаецца, весела-ўзбуджаны.

— Знайшоў!—яшчэ здалёк крыкнуў ён Соні.—І ведаеш, дзе была? Аж пад лесвіцай, каля самага выхаду з бліндажа.

— Рацыя?! Цэлая?!—падхапілася Соня.

— Ды не. Сумка. І глянь, як прашыла яе асколкам! Навылёт. Але карты нічога, карыстацца можна.

— А...

— Рацыя?—Вясёлая ўсмешка ў вачах Крамнёва патухла, на твар лёг халодны цень. Ён выпусціў з рук ражкі коўдры, і проста на траву пасыпаліся нейкія бясформенныя рознакаляровыя абломкі.

— Гэта... усё?

— Усё. Бачыш, адна пацяруха. Прымусіць гаварыць гэта ламачча не зможа і сам Крэнкель. Ды ты .. чаго ты?—заўважыўшы слёзы ў Соніных вачах, раптам зазлаваў Крамнёў.—Кінь. Падумаеш, трагедыя. Дагонім свой штаб, звяжуся з Цэнтрам, і будзе табе новая тарахцелка. А цяпер скажы дзякуй, што хоць карты знайшліся.

Крамнёў кінуў коўдру, усеўся пад дубам.

Раструшчаная радыёстанцыя засмуціла і яго не менш, чым радыстку. Яшчэ раз накіроўваючыся ў Сонін бліндаж, ён дзесьці ў самым куточку душы хаваў надзею, што рацыю і сапраўды ўдасца наладзіць, удасца ажывіць яе хоць на некалькі мінут. Тады ён адразу ж звяжацца з Цэнтрам, папросіць самалёт і адправіць хворую Соню на Вялікую зямлю. А можа, калі будзе такі загад, паляціць туды і сам.

А цяпер? Каб Соні хоць трохі ачуняць і акрэпнуць, прывесці ў парадак нервы (кантузія, відаць, несур'ёзная), трэба не менш, як тыдзень. За гэты тыдзень апусцее ранец. А тады? Галодны і хворы чалавек дзвесце кіламетраў не пройдзе, ды яшчэ скрозь лясы і балоты! А вёскі наўкол пагарэлі, нідзе не знойдзеш ні прытулку, ні кавалка хлеба.

Крамнёў скамечыў коўдру, зрабіў з яе нешта накшталт падушкі і расцягнуўся на мяккай цёплай траве. Мінулая ноч, шалёная ноч без сну, канчаткова знясілела яго. Трэба было заснуць, заснуць хоць на гадзіну. Але сну не было. Кудысьці ціха плыла зямля, плыла разам з ім, разам з разгалістым дубам, разам з глыбокім сінім небам і белымі-белымі хмаркамі, маленькімі і рэдкімі, як шрапнельныя разрывы. Бяздонная сіняя далеч клікала ў свае бязмежныя прасторы жывое і мёртвае, абяцала спакой і спачын. І пахлі тыя прасторы жывіцай-смалою, чаромхай і ландышам...

# АКРЫЛЕНЫЯ ЎВАГАЙ НАРОДА, КЛОПАТАМІ ПАРТЫІ

**15—18 мая 1973 года — дні работы IV з'езда мастакоў СССР. Творцы выяўленчага мастацтва аглядаюцца на зробленае, акрэсліваюць чарговыя планы, якія вынікаюць з рашэнняў XXIV з'езда КПСС, з тых задач, якія народ і партыя ставяць перад мастацтвам сацыялістычнага рэалізму на сучасным этапе творчага працэсу ў нашай краіне. З якімі вынікамі падышлі да ўсесаюзнага з'езду мастакі нашай рэспублікі, з якімі планамі на бліжэйшы час паехалі на ўсесаюзны форум прадстаўнікі Саюза мастакоў БССР,— гаворыцца ў артыкуле, які прапануем увазе чытачоў «Літаратуры і мастацтва».**

**Віктар ПРАТАСЕНЯ**

старшыня прэзідыума праўлення Саюза мастакоў БССР.

САВЕЦКІ народ, народ-наватар,— галоўны герой твораў савецкіх мастакоў. Ён натхнёна ажыццяўляе вялікія планы будаўніцтва камуністычнага грамадства ў нашай краіне.

Не так даўно савецкія людзі ўрачыста адзначылі залатую дату ўтварэння СССР. Гэтае ўсенароднае свята было і святам савецкага шматнацыянальнага мастацтва, у тым ліку—выяўленчага. Мастакі нашай краіны з новай сілай прадэманстравалі інтэнсіўны рост і адзінства ўсяго савецкага выяўленчага мастацтва, сацыялістычнага па зместу, разнастайнага па нацыянальных формах, інтэрнацыяналісцкага па духу.

Прысвечаныя 50-годдзю СССР шматлікія абласныя, рэспубліканскія і ўсесаюзныя выстаўкі твораў выяўленчага мастацтва з'явіліся яркім сведчаннем няўхільнага росту мастацтва сацыялістычнага рэалізму.

Цяпер, калі мастакі савецкай краіны збіраюцца ў Маскве на свой усесаюзны форум, мы яшчэ і яшчэ звяртаемся да даклада «Аб пяцідзесяцігоддзі Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік», з якім выступіў на сумесным урачыстым пасяджэнні ЦК КПСС, Вярхоўнага Савета Саюза ССР і Вярхоўнага Савета РСФСР Генеральны сакратар ЦК КПСС Л. І. Брэжнеў. У гэтым дакладзе выказана паслядоўная і ясная праграма далейшага развіцця культуры і мастацтва савецкага народа.

Мастакі Савецкай Беларусі, як і мастакі ўсіх братніх рэспублік краіны, заклапочаны тым, каб стварыць палотны, якія сцвярджаюць савецкую рэчаіснасць, раскрываюць вобразы перадавога чалавека працы, веліч здзяйсненняў у імя савецкага народа. У дыяпазоне мастакоўскіх клопатаў і стварэнне прыгожых вырабаў масавай вытворчасці, і далейшае пашырэнне выставачнай дзейнасці, і паляпшэнне выдавецкай справы, і развіццё праграмы мастацкага выхавання, умацаванне сувязей з мастацкай самадзейнасцю.

За апошнія гады Саюз мастакоў БССР значна папоўніўся маладымі здольнымі кадрамі — жывапісцамі, графікамі, скульптарамі, майстрамі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. І гэта з'яўляецца зарукаю далейшага паспяховага развіцця выяўленчага мастацтва ў рэспубліцы.

Калектыў Саюза мастакоў БССР бачыць прызванне ў тым, каб сваёй творчасцю дапамагаць савецкаму народу ў яго вялікай барацьбе за выкананне велічных планаў будаўніцтва ў нашай краіне. Нашы клопаты і думкі непарыўна звязаны з тым, што 1973 год, як падкрэслена ў дакладзе Л. І. Брэжнева, мае асаблівае значэнне—гэта трэці, у многім рашаючы лёс усёй пяцігодкі год. Менавіта ў гэтым годзе адбыўся наш рэспубліканскі з'езд мастакоў і адбываецца ўсесаюзны IV з'езд мастакоў СССР.

Кожны наш з'езд—гэта справаздача перад народам аб тым, што мы зрабілі, і распрацоўка планаў на будучыню. Галоўны наш клопат цяпер—рашуча выступаць супраць дробнатэм'я і стылізатарства, шукаць новыя шляхі ўзаемасувязей сацыялістычных культур, ствараць грамадска значныя натхнёныя творы, прасякнутыя сапраўдным прафесійным майстэрствам.

З году ў год умацоўваюцца сувязі мастакоў Савецкай Беларусі з жыццём народа. Прыкметны сёння той рэальны ўклад, які наша выяўленчае мастацтва ўносіць у адзіную інтэрнацыянальную культуру нашай роднай краіны.

Мы, мастакі, акрылёны ўвагай народа і клопатамі роднай Камуністычнай партыі. Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Беларусі прыняў пастанову «Аб мерах па далейшаму развіццю выяўленчага мастацтва ў рэспубліцы». Гэтая пастанова прасякнута клопатамі аб тым, каб выяўленчае мастацтва нашай рэспублікі квітнела, каб яно паспяхова служыла інтарэсам савецкага чалавека—нашага сучасніка, каб яно акрыляла чалавека. Гэтая пастанова прасякнута і патрабавальнасцю да нас, мастакоў Савецкай Беларусі. Так, у пастанове, у прыватнасці, падкрэслена: «...вынікаючыя з рашэнняў XXIV з'езда КПСС задачы далейшага павышэння ролі літаратуры і мастацтва ў камуністычным выхаванні савецкіх людзей патрабуюць ад майстроў выяўленчага мастацтва рэспублікі яшчэ больш актыўнай работы па стварэнню твораў, значных па думцы, яркіх па форме і мастацкаму ўвасабленню, якія б адпавядалі высокім духоўным запатрабаванням працоўных. Зладжанасць і дакладнасць у рабоце павінны характарызаваць дзейнасць праўлення Саюза мастакоў БССР і яго творчых фарміраванняў. Больш увагі і дапамогі майстрам пэндзля і разца патрабуецца з боку партыйных і савецкіх органаў».

Пастанова ЦК КПБ, якая намячае шэраг канкрэтных мер па далейшаму развіццю выяўленчага мастацтва ў рэспубліцы, з вялікім задавальненнем успрынята намі. Яна накіроўвае нас на яшчэ большую патрабавальнасць да сябе. Яна канкрэтна вызначае асноўныя кірункі нашай дзейнасці.

Час патрабуе яшчэ больш цеснага саюза працы і мастацтва. Менавіта ў гэтым кірунку сканцэнтравана асноўная ўвага новага складу праўлення Саюза мастакоў БССР. Характарызаваць работу Саюза мастакоў БССР за параўнальна невялікі перыяд пасля IX з'езда мастакоў рэспублікі — значыць гаварыць пра пачынанні, скіраваныя на садзеянне ідэйна-творчаму росту мастакоў, на адлюстраванне багацця нашай савецкай рэчаіснасці.

Адной з форм арганізатарскай работы, падпарадкаванай актывізацыі творчасці мастакоў, з'яўляецца фарміраванне творчых брыгад мастакоў для выездаў на прамысловыя прадпрыемствы, у калгасы і саўгасы рэспублікі, у воінскія часці і ў пагранічныя войскі дзеля збору матэрыялаў да сваіх будучых твораў, а таксама дзеля аказання шэфскай дапамогі на месцах — правядзення кансультацый, чытання дакладаў і лекцый па пытаннях мастацтва, арганізацыі выставак і г. д.

Несумненна, што ў працэсе жывой практыкі дзейнасць брыгад будзе ўдасканальвацца і будуць нараджацца новыя формы ўмацавання сувязей мастацтва з жыццём народа.

З пачуццём вялікай адказнасці перад народам і партыяй рыхтуюць майстры выяўленчага мастацтва свае творы да прадстаячых мастацкіх выставак. Усяго ў 1973 годзе будзе арганізавана больш 15 абласных, рэспубліканскіх і замежных выставак выяўленчага мастацтва нашай рэспублікі. Мяркуем, што беларускія мастакі прымуць удзел больш чым у пяці ўсесаюзных мастацкіх выстаўках.

Найбольш значныя з выставак гэтага года, у якіх прымуць удзел нашы майстры, гэта—«Беларусь сацыялістычная», выстаўка новых узораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва для масавай і серыйнай вытворчасці, выстаўка твораў групы беларускіх мастакоў у Маскве, выстаўкі твораў выяўленчага мастацтва нашай рэспублікі ў Запарожжы, Львове, Польскай Народнай Рэспубліцы, Народнай Рэспубліцы Балгарыі, у Італіі і г. д.

Летам 1973 года будзе ўведзены ў строй новы выставачны павільён Саюза мастакоў БССР. Да адкрыцця гэтага павільёна будзе наладжана вялікая рэтраспектыўная выстаўка твораў жывапісу, графікі, скульптуры, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

Сёння на стварэнне новых твораў да новых выставак ужо заключана больш 170 дагавораў з мастакамі. Многія з мастакоў натхнёна працуюць над новымі творамі. Так, напрыклад, мастакі А. Шыбнёў, З. Азгур, Л. Гумілеўскі, К. Касмачоў працуюць над творамі, прысвечанымі У. І. Леніну. М. Савіцкі і М. Данцыг працуюць над палотнамі, прысвечанымі сучаснай тэме, а В. Цвірко і В. Грамыка—над эпічнымі пейзажамі. Гісторыка-рэвалюцыйнай тэме прысвячаюць свае новыя работы Я. Зайцаў, П. Крохалеў, А. Малішэўскі. Новыя серыі графічных лістоў распрацоўваюць А. Паслядовіч і А. Кашкурэвіч. Ды хіба пералічыш усе цікавыя і змястоўныя задумы.

Нямала прадстаіць зрабіць Саюзу мастакоў БССР і ў галіне эстэтычнага выхавання школьнікаў і моладзі. Дастаткова сказаць, што гэтаму пытанню неўзабаве будзе прысвечаны спецыяльны пленум праўлення Саюза мастакоў рэспублікі.

Шмат праблем ставіць перад намі творчасць мастакоў у прамысловасці і работа прадпрыемстваў Мастацкага фонду БССР, работа студый выяўленчага мастацтва і далейшае ўмацаванне ролі крытыкі і мастацтвазнаўства ў нашым творчым працэсе. Гэтыя і многія іншыя праблемы, якія стаяць перад намі, у той ці іншай форме будуць закранацца на ўсесаюзным з'ездзе. Так што гэты з'езд для нас з'явіцца важнай вяхой у нашым творчым жыцці.

Радасна адчуваць, што ў нас багата клопатаў, што ўсе гэтыя клопаты—творчыя, што нас акрыляе вялікая ўвага савецкага народа да нашай творчасці, што нас акрыляюць клопаты роднай Камуністычнай партыі. Радасна, што сёння мастакі ўсіх пакаленняў мабілізуюць свае творчыя сілы, натхненне, талент, усе веды і вопыт на выкананне высокіх і ганаровых задач, пастаўленых перад савецкім мастацтвам партыяй і народам.



НАШЫ МАЙСТРЫ ЖЫВАПІСУ

# ШЧАСЛІВАЙ ТВОРЧАЙ ДАРОГІ

Вось цяпер, калі перада мною ляжыць белы аркуш паперы і я збіраюся расказаць пра свайго сябра Абрама Іосіфавіча Кроля, якому гэтымі днямі спаўняецца шэсцьдзесят, мне адразу ўспамінаецца эскіз да яго работы «Забастоўка грузчыкаў». Грузчыкі, якія адмовіліся грузіць у вагоны нарабаванае акупантамі збожжа, нібыта ажылі перада мною. Я бачу іх магутныя натруджаныя рукі, якім не жыць без справы, але якія цяпер адпачываюць, гатовыя ў любы момант сціснуцца ў кулакі для барацьбы з ворагамі. Урэзалася ў памяць смелая і выразная кампазіцыя карціны... На жаль, мы не можам яе ўбачыць. Яна загінула дзесьці ў вайну...

А. Кроль — выпускнік Віцебскага мастацкага тэхнікума, атрымаў выдатную прафесійную падрыхтоўку. Настаўнікі навучылі яго высокай грамадзянскасці, улюбёнасці ў справу, якой служыш, працавітасці.

Пасля заканчэння графічнага аддзялення тэхнікума Абрам Іосіфавіч працаваў у Беларускім дзяржаўным выдавецтве ў Мінску. Ён з захапленнем афармляў зборнікі вершаў тады яшчэ маладых паэтаў Петруся Броўкі і Аркадзя Куляшова, празаіка Эдуарда Самуйлёнка.

Аднак маладога мастака захапляе жывапіс і неўзабаве ён пачынае працаваць над жывапіснымі кампазіцыямі. Работы «Забастоўка грузчыкаў» і «Радзіма кліча» — адны з першых, якія атрымалі прызнанне і адабрэнне таварышаў па мастацтву і гледачоў.

Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, А. Кроль змяніў пэндзаль на зброю, змагаўся за свабоду і незалежнасць нашай Радзімы.

Пасля вайны мастак працягвае працаваць над гісторыка-рэвалюцыйнай тэмай, якая па-ранейшаму яго хвалявала. Ён піша своеасаблівую трылогію «Перад вобыскам», «Пасля Курлоўскага расстрэлу», «Абвяшчэнне Савецкай улады ў Беларусі», у якой расказвае аб пачатку рэвалюцыі, яе перамозе.

З тонкім мастацкім пачуццём ён перадаў трывожнасць моманту ў палатне «Перад вобыскам». Дзеянне карціны «Пасля Курлоўскага расстрэлу» мастак перанёс у бальнічную палату. Да параненых прыйшлі іх паплечнікі — рабочыя, рэвалюцыянеры. У гэтай кампазіцыі, напісанай лёгка і свабодна ў высакароднай маляўнічай гаме, А. Кроль дае глыбокую псіхалагічную характарыстыку персанажам.

Трэцяя карціна трылогіі — «Абвяшчэнне Савецкай улады ў Беларусі» хвалюе сваім пафасам, урачыстасцю моманту.

Натуральна, што ў пасляваенныя гады з'яўляецца ў мастака і шэраг работ, прысвечаных гераізму савецкага чалавека на вайне: «Баявое заданне», «Мінскі кацёл» і інш.

Шмат часу і натхнення аддае А. Кроль рабоце над вобразам народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. Эмацыянальнасцю гучання, завершанасцю кампазіцыі выдзяляецца карціна «Янка Купала і Цётка ў Пецярбургу».

Уражвае і другая работа А. Кроля, прысвечаная паэту, — «Дума пра Радзіму». Зіма. Гранітная набярэжная Нявы. Прытуліўшыся да парапета, глыбока задумаўшыся, стаіць паэт. Знаёмыя рысы твару... У вачах—трывога. Халодны каларыт карціны прымушае і нас хвалявацца разам з паэтам.

Заслугоўваюць увагі пейзажы А. Кроля. Яны прасякнуты паэзіяй, лірыкай, пачуццём захаплення перад дзіўнай непаўторнай беларускай прыродай. Спачатку здаецца, што яны напісаны лёгка. Але гэта толькі здаецца. Сапраўды ж, за імі вялікая праца і вялікая душа мастака. Асабліва ўдаюцца мастаку зімовыя пейзажы. Нейкім шостым пачуццём схоплівае ён танчэйшыя адценні інею, заснежаных далячынь, дзіўнае ззянне лёду... Пейзажы «Белая цішыня», «Снег ідзе», «Прастора», «Цені на лёдзе», «Вёска зімой» і іншыя дазваляюць гаварыць аб вялікай маляўнічай культуры мастака.

Творы А. Кроля шырока вядомы. Яны экспанаваліся на выстаўках у Мінску і Маскве, у іншых гарадах краіны і за рубяжом. Усюды яны карысталіся поспехам, прыцягвалі ўвагу гледачоў.

Абрам Іосіфавіч Кроль, цікавы мастак, уступіў у пару сталасці. Няхай жа яна будзе доўгай і творча ўдалай.

**Ул. САКАЛОЎ.**

НІБЫ ВІХОР, нясецца ў вогненнай тарантэле жанчына—служанка з бессмяротнага балета С. Пракоф'ева «Рамэо і Джульета» ў пастаноўцы выдатнага савецкага харэографа Л. Лаўроўскага.

Танцуе... Не, не танцуе — застыла ў дынамічнай позе балерына, вядомы беларускі харэограф Ніна Міхайлаўна Стуколкіна.

Застылае імгненне...

Гэтыя скульптуры, выкананыя А. Янсан-Манізер, можна сустрэць у музеях Ленінградскага харэаграфічнага вучылішча і вучылішча тэатральнага мастацтва імя Бахрушына ў Маскве і ў кватэры скульптара.

У прасторнай кватэры цішыня.

Сёння Алена Аляксандраўна Янсан-Манізер, наш гід, шчодра раскрыла перад намі



Танец фламенка з балета «Лаўрэнсія».

# ДУША НЕПАЎТОРНЫХ ІМГНЕННЯЎ

дзверы ў свет служыцеляў культу багіні танца Тэрпсіхоры.

А. Янсан-Манізер успамінае, як у далёкія гады, захопленая мастацтвам любіміцы Ленінграда — балерыны Ніны Міхайлаўны Стуколкінай, імкнулася ажывіць гліну, удыхнуць у яе музычнасць, рэдкую пластычнасць і натхнёнасць артысткі.

Алена Аляксандраўна пачала ляпіць служанку з «Рамэо і Джульеты» ў выкананні Стуколкінай перад самай вайною, але закончыць не паспела. У жорсткія дні блакады горада сястра скульптара беражліва захоўвала работу. Знясіленая жанчына змочвала рыззё, каб прыкрыць скульптуру, не даць гліне засохнуць. І так усе 900 дзён блакады! І захавала!

Пасля вайны Алена Аляксандраўна закончыла скульптуру. Вось яна перад намі — застылая і жывая...

А вось Стуколкіна ў ролі гордай іспанкі ў фламенка з балета «Лаўрэнсія». Скульптар «ухапіла» галоўнае ў гэтым характары — буйны тэмперамент, нястрымнае імкненне да свабоды, горды непераможны дух...

Пакарае пранізаная негай і гарачай страсцю фігура грацыёзнай персіянкі — Стуколкіна ў «Хаваншчыне». Побач — дачка поўдня Мерседэс з «Дон-Кіхота». У постаці балерыны, якую «захавала» для нас скульптар — бясконцы рух, бязмежнае захапленне жыццём, прыгажосць і грацыя...

У скульптурнай паэме А. Янсан-Манізер назаўсёды засталася вялікая душа і талент балерыны.

**У. ПАНОЎ.**



Мерседэс у балеце «Дон Кіхот».

# ПРЫЗНАННЕ ТАЛЕНТУ

**Народны мастак Беларусі Міхаіл Савіцкі ўдастоены звання лаўрэата Міжнароднай выстаўкі рэалістычнага жывапісу ў Сафіі.**

Міжнароднае журы адзначыла прэміяй карціну мастака «Партызанская мадонна». Імя М. Савіцкага названа ў ліку дзесяці іншых лаўрэатаў міжнароднага агляду.

Тэма гераізму ў Вялікай Айчыннай вайне займае асаблівае месца ў творчасці мастака. Яна адлюстравана ў яго лепшых палотнах: «Партызаны», «Пакараныя смерцю», «Віцебскія вароты» і іншых. З творамі М. Савіцкага знаёмы гледачы многіх краін свету, дзе праходзілі выстаўкі беларускага жывапісу.

Карціна «Партызанская мадонна» экспануецца ў пастаяннай экспазіцыі Траццякоўскай галерэі.

Прысуджэнне міжнароднай прэміі — прызнанне вялікага таленту беларускага жывапісца.

ДЛЯ СУЧАСНАГА чалавека грамадскі інтэр'ер стаў неад'емнай часткай быту. Мы ўспрымаем яго іншы раз, нават не задумваючыся, як нешта зусім натуральнае. А між тым інтэр'ер грамадскага памяшкання—кафэ, магазіна, рэстарана, танцавальнай залы, хочам мы таго ці не, уплывае на нас. На наш густ, на наша пачуццё прыгожага. Ён з'яўляецца адным з мноства фактараў, якія фармуюць наш эстэтычны ідэал. І таму, пытанне які ён — інтэр'ер грамадскага памяшкання, якую эмацыянальную нагрузку нясе ў сабе, наколькі адпавядае катэгорыям прыгажосці і зручнасці — пытанне важнае і надзённае.

# ФАНТАЗІЯ. ТАЛЕНТ. ГУСТ.

Жадаеце пераканацца ў гэтым? Зойдзем у сталічны рэстаран «Папараць-кветка» і ў магазін «Кветкі», што на Ленінскім праспекце ў Мінску...

Рэстаран «Папараць-кветка». Збудаваны яшчэ ў 1932 годзе, стары рэстаран памаладзеў. Гэтым мы абавязаны групе супрацоўнікаў інстытута «Белгіпрагандаль» на чале з архітэктарам Г. Сысоевым.

У асноўным аўтарская задума ўдалася. Зразумела, што наведвальнікі — людзі з розным густам і поглядамі. Таму кожны ставіцца да новага інтэр'ера па-свойму. Але большасць сыходзіцца на адным: зроблена цікава, самабытна. І сапраўды, аўтары трапна выкарысталі ў інтэр'еры рэстарана народныя матывы.

Вялізную залу падзяляюць два шэрагі калон-прасценкаў, зробленых з белага пластыку. Калоны гэтыя маюць вокны розных памераў, у якіх — дзівосныя птушкі. Яны быццам сышлі з прыгожых беларускіх ручнікоў. Птушкі гэтыя ўвечары падсвечваюцца ліхтарамі розных колераў. На сцэне цікавы вітраж — маленькая частка пушчы з «сакрэтам». Калі іграе аркестр, уключаецца «колерная музыка», і вітраж пачынае іскрыцца і пераліваецца ўсімі фарбамі. Панелі, як у зале, так і ў холе, абшыты лакіраванымі дошкамі. Сталы і крэслы таксама драўляныя — знарок грубыя. Усё вырашана строга і проста, без лішняй мудрагелістасці. Хол прасторны і светлы, вельмі ўдала вырашана і лесвіца, хаця па сваім халаднавата-ўрачыстым стылі яна крыху «выбіваецца» з агульнага ладу рэстарана.

А вось магазіну «Кветкі» (архітэктар — Г. Губіш) не пашанцавала. Ці то фантазія «падвяла» аўтара, ці то наведвальнікі магазіна проста занадта прыдзірлівыя. Але факт застаецца фактам. Дырэктар магазіна толькі рукамі разводзіць: «Не падабаецца магазін пакупнікам»...

Чорныя сцены падсвечаны спецыяльнымі асвятляльнікамі, якія, відаць, па задуме архітэктара, павінны стварыць паўзмрок: люстэркі — астаткі былой раскошы, столь — здалёк нагадвае арматурную рашотку. Усё астатняе свабоднае месца на сценах занята пафарбаванымі ў шэра-белы колер дошкамі, за якімі гарыць змрочнае святло. Вокны таксама былі закрыты гэтымі дошкамі, але супрацоўнікі магазіна іх знялі — нават працаваць было немагчыма.

Аўтар так «захапіўся» сваёй работай, што ў пагоні за «звышсучасным»... «забыўся» зрабіць прылаўкі і паліцы, на якіх павінен знаходзіцца тавар. Вось і вымушаны прадаўцы выстаўляць кветкі на сталах і падлозе. Гандлёвы вугал такім чынам займае паўмагазіна. А ўздоўж сцен вертыкальныя керамічныя трубы. Магчыма, тут архітэктар планаваў размясціць тавар? Магчыма. Але трубы стаяць уздоўж сцен, а кветкі ў кутку. Поўная дысгармонія!..

Кажуць, што дарыць кветкі, як і атрымліваць іх — радасць. І, відаць, магазін кветак павінен быць тым месцам, дзе нараджаецца гэта радасць. Але з магазінам «Кветкі» гэтага не адбылося.

Чаму?

З гэтым пытаннем я звярнуўся да Сяргея Пятровіча Каткова, які шмат год быў старшынёй афармiцельскага савета Мінскага мастацкага камбіната.

— На мой погляд,—сказаў ён,— адна з асноўных прычын няўдалых інтэр'ераў — адсутнасць узаемаразумення ў працы архітэктара і мастака. Як гэта ні дзіўна, але мастака запрашае не архітэктурная арганізацыя, якая вядзе распрацоўку, а непасрэдна заказчык. І запрашае не разам з дойлідам, а пасля таго, як той ужо скончыў сваю частку работы. Мастаку прапануюць на «вольнай» плошчы «прыляпіць» ці намаляваць нешта такое, што адпавядала б задуме архітэктара. У гэтым выпадку рэдка ўдаецца зрабіць нешта цікавае, самабытнае. Вельмі ж цяжка «дапісаць» твор, задуманы і пачаты іншым.

Відаць, настаў час ствараць творчыя групы, у якія ўваходзілі б і архітэктары і мастакі. Працаваць над афармленнем яны пачыналі б разам. І хай бы інтэр'ер нараджаўся ў спрэчках, у сумесных пошуках.

Вось паглядзіце — «Кветкі» рабіў архітэктар без мастака. Той жа архітэктар Г. Губіш (сумесна з П. Шварцманам) працаваў і над стварэннем інтэр'ера беларускага аддзялення АДН, але працаваў ужо **разам** з мастаком А. Зіменка. Вынік—выдатны. Магчыма, магазін проста аўтарская няўдача, але, што ні кажы, саюз мастака і архітэктара — гэта цудоўна. Дзе памыліцца адзін, паправіць другі. Бо абодва яны — мастакі ў шырокім сэнсе гэтага слова.

Аб неабходнасці творчай садружнасці паміж архітэктарам і мастаком сведчыць і вопыт стварэння інтэр'ера ў вялікай танцавальнай зале ў парку культуры і адпачынку імя Чэлюскінцаў (архітэктар П. Бяляеў, мастакі А. Валатовіч, В. Мігаль, В. Пазняк). Аўтарам былі, як кажуць, дадзены ўсе карты ў рукі: стварай, выдумляй, спрабуй. Але яны адмовіліся спрабаваць і выдумляць. Не, не падумайце, што тут няма ўсяго «неабходнага» для сучаснага інтэр'ера. Ёсць і сцены, абабітыя лакіраванымі дошкамі, і вялізнае пано (трэба сказаць — прыгожае), і крэслы з маленькімі столікамі... А вось інтэр'ера няма. Таму што інтэр'ер — гэта цэлы комплекс узаемазвязаных рэчаў. Яны могуць быць выраблены з розных матэрыялаў, створаны ў розных стылях, пафарбаваны ў розныя колеры. Бяздумны набор інтэр'ерных аксесуараў нічога не дае.

На Мінскім мастацкім камбінаце мне гаварылі, што ў танцавальнай зале мастакі толькі пісалі пано, усё астатняе рабіў архітэктар. Але наведвальніка ж гэта зусім не цікавіць — ён бачыць вынік агульнай працы.

Мы ставімся да інтэр'ера, як да мастацтва. Мы так і гаворым — «мастацтва інтэр'ера». Гаворым не таму, што сучасны інтэр'ер ствараюць мастакі, а таму, што ён патрабуе ад выканаўцаў тых жа адносін да працы, што і любы мастацкі твор.

Здаецца, наспела пара выпрацаваць поўныя крытэрыі, з якімі трэба падыходзіць да твораў мастацтва інтэр'ера. Трэба азірнуцца на зробленае, падсумаваць здабыткі і прааналізаваць пралікі. Лепш за ўсё гэта можа зрабіць выстаўка. Выстаўкі работ мастакоў-афармiцеляў з поспехам прайшлі ў Ленінградзе і Львове, Вільнюсе і Кемерава, Навасібірску і Краснаярску. Вялікую карысць яна прынесла б і ў Мінску.

Мастацтва інтэр'ераў упэўнена ўвайшло ў наш быт. Перад афармiцелямі стаяць новыя творчыя праблемы. Яны павінны адрозніваць сапраўднае ў асваенні спадчыны ад падробак, клапаціцца аб узаемаадносінах формы і зместу, умець звязаць прызначэнне памяшкання, яго функцыю з патрабаваннямі тых, для каго яны ствараюцца.

**В. ДОБКІН.**

# БУКЕТ ЖЫВЫХ КВЕТАК

камі, боепрыпасамі, салдатамі спусціў пад адхон Анатоль Сцяпанавіч.

— А хто гэта такі — Анатоль Сцяпанавіч, можа мой дзед?

— Ага, твой дзед, Юра. Дык вось, значыць, слухай далей. Да вайны мы жылі ў Дубраўцы. Твой дзед, а мой бацька, працаваў памочнікам машыніста, маці — трактарысткай у Сінчанскай машынна-трактарнай станцыі. Бацька часта браў мяне з сабой у паездкі. Непрыкметна беглі шчаслівыя гады. І раптам — вайна! У нашу вёску ўварваліся фашысты. Марудна пацягнуліся дні ў варожым тыле. Потым бацька забраў нас у лес. Там, у партызанскім лагеры, маці стала дапамагаць фельчару. Мне таксама давалі даручэнні: хадзіў у разведку, распаўсюджваў лістоўкі, прыносіў у атрад медыкаменты. А потым...

Фёдар Анатольевіч змоўк, дрыжачымі ад хвалявання рукамі дастаў папяросу, закурыў. У яго памяці аднаўляліся падзеі трывожнага сорак чацвёртага года, калі партызанскі атрад імя Суворава апынуўся ў акружэнні.

— А потым,—глуха, як бы праз сілу, зноў загаварыў ён, — выклікае мяне камандзір, кажа: «Маланкай ляці, Федзя, у атрад Данілені, перадай, каб паспяшаліся на дапамогу. Ды асцерагайся, не забывай: вакол немцы».

Стрымгалоў кінуўся я выконваць даручэнне, мінуў знаёмую лінію — прасеку, выскачыў на ўзлесак Казінага Рога. Не паспеў перавесці дыханне, агледзецца, як збоку крыкнулі:

— Хальт!

Потым ударыла аўтаматная чарга, дзесьці непадалёку забарабаніў кулямёт. Мноства трасіруючых куль белымі ніткамі прашылі цемру. Я зразумеў, што марудзіць нельга, і крута заламаў у другі бок, у расцяробы кустоў на беразе рэчкі. Быў якраз канец сакавіка, лёд пад нагамі не вытрымаў, затрашчаў, і я праваліўся ў ваду.

Астатняе сын ведаў, і Фёдар Анатольевіч змоўк. Юра зноў узяў у рукі часопіс, пачаў чытаць, а бацька ўжо настроіўся на адпаведную думку і працягваў разматваць клубок успамінаў.

На другі дзень пасля здарэння на рэчцы да партызан-«суворавцаў» падышло падмацаванне: і яны пайшлі ў наступленне, прарвалі варожы ланцуг, выйшлі з акружэння. А Фёдар? Фёдар болей не вярнуўся ў атрад. Выпадкова натрапіўшы на знясіленага падлетка, яго падабралі людзі.

Голасна, як па нябожчыку, плакала маці. Моўчкі, па-мужчынску, пераносіў гора бацька, Анатоль Сцяпанавіч.

А неўзабаве ён і другія мужчыны атрада былі залічаны ў адну са стралковых рот Першага Беларускага фронту. Маці, Вольга Трафімаўна, таксама не вярнулася да мірнай працы — пайшла медсястрой у палявы шпіталь, які ўслед за фронтам рухаўся на захад. Вайна працягвалася...

Фёдар больш чатырох гадоў быў прыкаваны да ложка. Трагічная сакавіцкая ноч сорак чацвёртага года не прайшла бясследна. Запаленне, залатуха, слепата — хваробы ўсе разам навaліліся на хлопца. Нягледзячы на намаганні ўрачоў, вярнуць зрок Фёдару не ўдалося.

А потым была школа сляпых дзяцей у Гродна. Доўгі, як тунэль, калідор. Раніцай дзеці займалі свае месцы за партамі. Светлыя класы запаўняліся звонкімі галасамі і крыкамі вясёлых рабят. Сярод іх быў і Федзя Гарноўскі. Настаўнікі любілі яго за выдатную вучобу, дысцыпліну, сябры за вясёлы характар і вернасць таварыскай дружбе.

Ішлі гады. Федзя падрастаў. Вечарам ён спяваў у школьным хоры, прымаў удзел у спартыўных спаборніцтвах, навучыўся чытаць па шрыфту Брайля і цэлымі гадзінамі праседжваў у бібліятэцы над тоўстымі кнігамі. Не раз перачытаў «Як гартавалася сталь», «Аповесць аб сапраўдным чалавеку», «Рускі характар». Захапіўся мадэліраваннем. Недзе і цяпер яшчэ ў школьным гуртку «Нашы ўмельцы» захоўваюцца мадэлі самалёта і парахода, зробленыя яго рукамі.

А пра лёс сваіх бацькоў Фёдар нічога не ведаў. Дзе яны? Што з імі? — неадступна трывожыла думка. Настаўнікі і выхавацелі, як родныя, клапаціліся аб сіраце, вялі пошукі яго бацькоў. Аднойчы прынеслі чарговую пошту, і Галіна Савічна Харчанка, раскрыўшы канверт са службовым штэмпелем, прачытала: «Паведамляем вам, што Анатоль Сцяпанавіч і Вольга Трафімаўна Гарноўскія жывуць у горадзе...» Яна не дачытала ліст, хуценька выбегла ў калідор.

— Федзя, родненькі, — закрычала выхавацельніца, — бацькі твае знайшліся!

Цяжка ўявіць радасць і хваляванне Фёдара ў тыя мінуты. Потым усю ноч, да раніцы, не звёў вачэй. Думаў, чакаў... А назаўтра Ганна Савічна везла Федзю ў Мінск да бацькоў.

Сустрэча! Моцныя абдымкі, успаміны, слёзы... Радасці не было мяжы. Плакала маці, каціліся слёзы па маршчыністым твары бацькі, выцірала ражком хусткі вочы выхавацельніца.

А потым Фёдар Гарноўскі пайшоў працаваць на Мінскае вучэбна-вытворчае прадпрыемства, у шчотачны цэх. Там ён пазнаёміўся з Валодзем Ігнаценкам. Яны пасябравалі адразу, як толькі Фёдар прыйшоў на прадпрыемства. У Валодзі ўжо быў чацвёрты разрад, і ён лічыўся сапраўдным спецыялістам. І Фёдара больш за ўсё хіліла да яго тое, што гэты моцны, упэўнены ў сваіх сілах хлопец трымаецца з ім проста і нараўне. Валодзя Ігнаценка стаў яго нязменным сябрам і настаўнікам.

Фёдару хацелася хутчэй даказаць вопытнаму спецыялісту, што ён, навічок, не лыкам шыты, не дарэмна атрымлівае зарплату. Помніцца, даў Ігнаценка яму ў першы раз выканаць самую простую аперацыю. Узяўся Фёдар за справу і неўзабаве зрабіў першую шчотку. А Ігнаценка маўчыць. І толькі тады Фёдар зразумеў: брак. Не атрымалася і другая шчотка. І Фёдар адчаяўся, хацеў нават кінуць работу: падумалася, ніколі не асвоіць яму прафесію шліфавальшчыка.

Але далёка ззаду засталіся хвароба, роспач, школьныя гады, а наперадзе — незнаёмая прафесія, новыя цяжкасці, роздум, пошукі...

Ды Фёдар Гарноўскі ніколі не шукаў у жыцці лёгкіх дарог. А Ігнаценка не адступаўся: цярплівa вучыў навічка. Фёдар пачаў асвойваць адну аперацыю за другой, налаўчыўся «весці дэталі» на шліфавальным станку. Прадукцыя, што выходзіла з рук Гарноўскага, стала атрымліваць толькі высокую ацэнку. Таму што самым строгім майстрам і кантралёрам стала яго рабочае сумленне.

Тут, на вучэбна-вытворчым прадпрыемстве, Фёдар пазнаёміўся з Інай Андрэеўнай. Працавітая, разважлівая дзяўчына. Яны часта з работы вярталіся разам. І праз нейкі час сябры па рабоце пажадалі маладажонам шчасця ў сямейным жыцці. І шчасце не здраджвае ім: вось ужо пятнаццаць гадоў пастаянна спадарожнічае Гарноўскім.

А на прадпрыемстве пачалі ўступаць у строй усё новыя і новыя цэхі. Неяк Фёдар пачуў, што ў штамповачным не хапае рабочых. Падумаў, пагаварыў з жонкай і пайшоў працаваць слесарам-разьбанарэзчыкам.

Цэх тады рабіў першыя крокі. Многа рабілася ўручную. Але і тут, на новым месцы, Фёдар хутка стаў лепшым рабочым: дэталі, зробленыя яго рукамі, заўсёды прымаліся без адзінай заўвагі...

Юра зноў схіліўся над часопісам, але ён не чытаў — думаў пра бацьку, прыгадаў радкі з кароценькай нататкі, што не так даўно чытаў на прадпрыемстве ў насценнай газеце «Перадавік»: «Фёдар Гарноўскі— перадавік вытворчасці, вопытны рабочы, чулы чалавек. За што ні возьмецца — хай гэта будзе прабіўка штыфтоў, нарэзка разьбы, гаек, кантактных пласцінак, ці загібка рознага роду клем, ён выконвае заданне з высокай адказнасцю, пры тым прадукцыю выпускае выдатнай якасці...»

У апошні час праявілася яго здольнасць упраўляць не адным, а многімі станкамі. Захварэў неяк рабочы, які працаваў на двухшпіндзельным станку. Замяніць яго ніхто не мог, а дэталі былі патрэбны неадкладна. Пра тое, што станок стаіць, паведамілі начальніку цэха Дзмітрыю Якаўлевічу Козелу.

— А чым заняты Фёдар Анатольевіч? — пацікавіўся той.

— Прабівае штыфты.

— Можна часова спыніць вытворчасць гэтай дэталі і паставіць Гарноўскага на двухшпіндзельны станок.

Так і зрабілі: новыя дэталі пайшлі на зборку і вытворчы працэс на прадпрыемстве не спыніўся.

Юра ўспомніў пра маці, уявіў на імгненне сваю кватэру. У кутку залы свеціцца блакітны экран тэлевізара, акуратна расстаўлены на кніжных паліцах томікі Пушкіна, Чэхава, Коласа, Купалы, тоўстыя кнігі па шрыфту Брайля. Бацька шмат чытае, захапляецца навінкамі тэхнічнай літаратуры.

Юра задумаўся і не заўважыў, як цягнік паступова прыцішыў ход, спыніўся.

— Мінск! — гучна аб'явіў праваднік.

— Прыехалі, сынок, — на яго плячук лягла бацькава рука, і яны выйшлі з вагона.

Горад сустрэў іх калючым марозікам. Мінулі прывакзальную плошчу, спыніліся на тралейбусным прыпынку, і толькі тады Фёдар Анатольевіч схамянуўся, папрасіў сына:

— Ведаеш, Юра, давай пойдзем пешшу, да плошчы Перамогі.

Яшчэ здалёк Юра ўбачыў, як строга і ўрачыста на ёй узвышаўся абеліск. Нібы вартавыя, стаялі вакол маладыя дрэўцы. Паверхня граніту зіхацела мірыядамі срэбных зорачак. А на самым версе абеліска ў залацістых промнях сонца ярка ззяў ордэн Перамогі.

Фёдар спыніўся каля помніка, дастаў з чамаданчыка загорнуты ў цэлафанавую паперу букецік і, выцягнуўшы ўперад левую руку, асцярожна дакрануўся да гранітнай пліты. Потым павольна паклаў да абеліска кветкі.

— Ну, пойдзем, сынок, — нарэшце ціха сказаў Фёдар. — Мы яшчэ вернемся сюды.

Юра асцярожна ўзяў бацьку пад руку і павёў да тралейбуснага прыпынку. Ідучы поплеч, Юра адчуў, што яго крокі робяцца больш цвёрдымі.

**В. ПАДАЛЯКА.**

---

пова нараджаюцца, хаця, часам, і не заўсёды ўдала.

Вядучыя майстры народнай творчасці, абапіраючыся на ўсталяваныя мясцовыя традыцыі і ўспрымаючы іх не як строгі канон формы, а толькі як прынцып выяўлення пластычных і дэкаратыўных магчымасцей матэрыялу, дабіліся ў сваіх пошуках значных поспехаў.

Такія адносіны да ўнаследавання мінулага заўважаюцца ў творчасці Веры і Міхаіла Дзегцярэнкаў, калі яны распрацоўваюць новыя арнаментальныя ўзоры для інкрустацыі саломкай драўляных шкатулак і куфэркаў, дэкаратыўных пано. Прыёмы дэкаратыўнага вырашэння дэталей у выглядзе вытачаных вітых пляцёнак, разетак і выпуклых ромбападобных уставак выкарыстоўваліся майстрамі яшчэ XVIII—XIX стагоддзяў. А такія мастакі, як Рыгор Мамаеў і Майсей Кулак, карыстаюцца гэтымі метадамі і сёння, асабліва калі яны ствараюць залацістыя шкатулкі з саломкі. І зусім па-свойму ўжываюць іх Кацярына Арцёменка, Вера Гаўрылюк, Алена Лось. Тут саломка сцягнута тугім жгутам, звіліны, якія раптам ствараюць нечаканыя тонкія пераліvы залацістага колеру, спалучаюцца роўнымі рэльефнымі плоскасцямі з прыгожай пляцёнкай; іншы раз пераліўныя сцябліны, разыходзячыся паўкругам у выглядзе бліскучага арэола, ствараюць незвычайны дэкаратыўны эфект (грывы коней у творах «У бой за Радзіму» і «Тройка» Кацярыны Арцёменка).

Распрацоўка новых дэталей у арнаментальных кампазіцыях назіраецца і ва ўзорным ткацтве.

Далейшае развіццё народных традыцый назіраецца і ў разьбе па дрэву. Значнае нахіленне плоскасці, абагульненне формаў з'яўляецца ў працах Дзмітрыя Сталярова «М. Горкі», «Перад боем», Івана Лукі «У пушчы», Міхаіла Івінскага «Беларускія партызаны». Спакойны светла-ценявы малюнак, якому, аднак, не цяжка надаць і моцнае вобразна-драматычнае гучанне, дазваляе аўтарам найбольш поўна высвятліць дэкаратыўныя ўласцівасці матэрыялу.

І ўсё ж, адзначаючы цікавыя работы майстроў народнай творчасці, іх прызнанне і папулярнасць, заўважаеш і трывожныя сімптомы. На выстаўках нямала прысутнічае слабых, стандартных твораў, падчас наіўна-бездапаможных, а іншы раз проста дрэнна скапіраваных з прафесійнага мастацтва.

Сутыкаючыся з падобнымі з'явамі, міжволі задаеш пытанне: чаму? Ці не ўстарэлі формы работы з майстрамі народнага і самадзейнага мастацтва, дзе і як мастаку-аматару вучыцца, павышаць сваё майстэрства? І калі дэталёва ўсё ўзважыць, атрымліваецца неадпаведнасць: колькасць аматараў выяўленчага мастацтва, асабліва сярод моладзі, расце з кожным годам, а колькасць гурткоў, студый, творчых клубаў застаецца на ранейшым узроўні. Часам бывае і наадварот. Невядома, чаму спынілі сваё існаванне студыі выяўленчага мастацтва ў Баранавічах, Навагрудку, Пінску, Оршы, Жлобіне, Наваполацку і Мазыры. Другі год не працуюць яны ў Маладзечна і Барысаве, хаця для іх дзейнасці тут ёсць усе ўмовы.

Нядаўна пры Мінскім абласным доме народнай творчасці адкрыўся творчы клуб народных майстроў і самадзейных мастакоў, у ім разгорнуты экспазіцыі народнага мастацтва вобласці. У 1970 годзе пачаў працаваць музей народнага мастацтва ў Гродна. Гэта ўжо з'явы прыкметныя. Але ці дастаткова іх? Творчыя клубы, несумненна, ажывяць, адновяць самадзейнае мастацтва, стануць асновай яго творчых аб'яднанняў. Аднак цалкам не змогуць замяніць сабой планамерную мэтанакіраваную працу студый і гурткоў.

Адмоўна сказваецца на развіццё самадзейнай творчасці і адсутнасць у рэспубліцы адзінага метадычнага цэнтра. Толькі карысць прынеслі б разгорнутыя экспазіцыі твораў майстроў народнага мастацтва ў сталічных і абласных музеях. Яны неабходны, як паветра.

Сёння народная і самадзейная мастацкая творчасць знаходзіцца на новым уздыме. Аднак яна патрабуе не толькі арганізацыйна-метадычнай дапамогі, клопату, стымулаў, накіраваных на яе пастаяннае абнаўленне, але і ўсталявання цеснай сувязі праз музейныя экспазіцыі паміж старынай і сучаснасцю. Гэта адна з важнейшых умоў не толькі абнаўлення, але і адраджэння забытых відаў народных вырабаў.

**Ф. ВАЛАДЗЬКО,**
намеснік дырэктара
Рэспубліканскага дома
народнай творчасці.

# МАЙСТЭРСТВА НАРОДНЫХ УМЕЛЬЦАЎ





Весела пашчоўкваюць каклюшкі. Спрытна перабіраючы іх, дзяўчаты хутка плятуць карункі. Здаецца, што нараджаюцца яны проста на вачах, перадаючы настрой каруначніц, іх характар, іх разуменне прыгожага. Галоўны мастак прадпрыемства Святлана Аўраменка стварыла для вязальшчыц дзесяткі ўзораў каўнерыкаў, манішак, сурвэтак.

Чатыры гады назад па накіраванню Маскоўскага прамыслова-мастацкага вучылішча імя Калініна прыехала Святлана на фабрыку. Тэмай яе дыпломнай работы была «Вышыўка золатам». Дзяўчына марыла ўпрыгожваць касцюмы, сукенкі. А тут давялося ствараць узоры для навалачак, чахлоў на коўдры. Але яна захапілася работай. Шмат давялося перачытаць кніг, прагледзець альбомаў, каб па-сапраўднаму зразумець характар беларускай народнай творчасці.

Часта бывае Святлана ў вёсках Аршаншчыны. Цікавіць яе тут не толькі вышыўка і карункапляценне. Цікава і з захапленнем расказвае яна пра майстэрства Мікалая Іванавіча Сімянкова з вёскі Дуброўка, які вырабляе на ганчарным станку на дзіва прыгожыя вырабы чорнай керамікі, аб лыжачніках вёскі Марковічы і аб самым умелым з іх — Леанідзе Спірыдонавічы Бераснёве, аб каруначніцы Марыі Аляксандраўне Рылько, залатыя рукі якой ствараюць тонкай прыгажосці ажурныя каўнерыкі, манжэты, прошвы, дарожкі.

Нядаўна прадпрыемства справіла наваселле. Яно размясцілася ў светлым высокім будынку з прасторнымі вытворчымі цэхамі. Самы вялікі з іх — цэх машыннай вышыўкі. Сто дзесяць вышывальшчыц, сорак краўчых выпрабляюць за змену сотні ўпрыгожаных вышыўкай навалачак, чахлоў на коўдры, якія ахвотна купляюць у Грузіі, Азербайджане, Малдавіі, Літве, Казахстане. Ствараецца на фабрыцы цэх керамікі, наладжваецца вытворчасць драўляных лыжак.

Сёлета калектыў фабрыкі плануе распрацаваць і ўкараніць у вытворчасць шмат новых карункавых вырабаў. Тут добра разумеюць, што творы народнага мастацтва — гэта больш, чым проста ўпрыгожванні, і беражліва захоўваюць тое, што перадаецца з пакалення ў пакаленне, што з'яўляецца неад'емнай часткай самабытнай культуры народа.

**Л. ВОЛЬСКАЯ.**

**На здымках:** 1. Галоўны мастак фабрыкі Святлана Аўраменка.

2. Драўляныя конаўкі, зробленыя аршанскімі майстрамі.

3. Каруначніцы Наталля Грыгаровіч (злева), Валянціна Пілюшкіна, Людміла Ласмакова, Ніна Кандрацёнка, Валянціна Яскевіч і Валянціна Кулік за работай.

Фота Г. УСЛАМАВА.

(БЕЛТА).



# ЗМАГАР ЗА МІР

*ДА 100-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ВЫДАТНАГА ФРАНЦУЗСКАГА ПІСЬМЕННІКА АНРЫ БАРБЮСА*

*Сусветная грамадскасць адзначае 100-годдзе з дня нараджэння выдатнага французскага пісьменніка і грамадскага дзеяча, палымянага публіцыста і змагара супраць імперыялістычных войнаў, вернага друга Савецкага Саюза Анры Барбюса. Яго кнігі «Агонь» і «Яснасць», у якіх ярка і пераканаўча было паказана абуджэнне рэвалюцыйнай свядомасці салдат у першай сусветнай вайне, высока цанілі У. І. Ленін і М. Горкі.*

*Творчасць Анры Барбюса шырока вядома ў нашай краіне. На Беларусі — упершыню ў Савецкім Саюзе —былі выдадзены яго кнігі «Розныя факты» (1929) і «Расія» (1931). І Анры Барбюс ведаў Беларусь — яго паездкі па Савецкаму Саюзу пачыналіся з Негарэлага і Мінска. Ён не аднойчы сустракаўся з беларускімі пісьменнікамі, сведчаннем чаго засталася адна з яго фатаграфій, падпісаная: «Таварышам і прыяцелям на Беларусі. З братэрскім прывітаннем Анры Барбюс».*



*Нашу даніну шчырай павагі і любві да цудоўнага пісьменніка і чалавека Анры Барбюса прыносім мы і сёння, у яго соты дзень нараджэння.*

**Сцяпан ЛІХАДЗІЕЎСКІ**

## ЛЯ МАГІЛЫ АНРЫ БАРБЮСА

...І перад поглядам
Паўстала
Магіла творцы і байца.
Яму рабочыя Урала
Узнеслі помнік з арляца.
Ад праўды жорсткае,
Нятленнай
Ён меў надзейныя ключы.
Ён той,
Каго таварыш Ленін
«Вялікім голасам» лічыў.
Ён знаў «агонь» у розным
сэнсе:
Агонь вінтовак і гармат,
Што сэрцы рве —
З ім толькі стрэнься —
Агонь,
Што скошвае салдат,
Агонь,
Што свет наш зробіць чыстым,
Рэвалюцыйнасці агонь,
Агонь нянавісці к фашыстам,
Агонь нянавісці да войн.
...Ён у Маскве страчае ранне.
Вагон зашмат гасцей сабраў.
Партрэт надпісвае,
Вітанне
На Беларусь ён шле сябрам.
Ён на кангрэсах Камінтэрна
Таварышам жаданым быў.
Хоць смерць абмежавала тэрмін
Яго жыцця і барацьбы,
Ён прыклад пакаленням новым,
Гарэнне — ўсё жыццё яго.
Бушуе ў арляцы вішнёвым
Агонь,
Барбюсаўскі агонь.

## ПАМЯЦІ ВЯЛІКАГА ПІСЬМЕННІКА

Вечар, прысвечаны стагоддзю з дня нараджэння выдатнага французскага пісьменніка Анры Барбюса адбыўся ў памяшканні Беларускага дзяржаўнага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцягу Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Адкрыў яго народны пісьменнік Беларусі, лаўрэат Ленінскай прэміі Іван Мележ.

З дакладам аб жыццёвым і творчым шляху Анры Барбюса выступіў загадчык кафедры зарубежнай літаратуры Белдзяржуніверсітэта імя У. І. Леніна Барыс Міцкевіч.

## ЧЭХАСЛАВАКІЯ НАЗЫВАЕ ЛЕПШЫХ СЦЭНАРЫСТАЎ

У чэхаславацкім горадзе Пльзень адбыўся шосты фестываль чэшскіх і славацкіх фільмаў. Журы фестывалю прызнала найлепшымі сцэнарыстамі 1972 года Мілаша Крно і Анатоля Дзялендзіка, фільм якіх «Заўтра будзе позна» дэманструецца на экранах Чэхаславакіі.

# РАДАСЦІ І ТУРБОТЫ СТАРШЫНІ КАДЛУБОВІЧА

**(Працяг. Пачатак на 3-й стар.).**

таў, — дальбог, свежая, як толькі згатавалі. Цяпер падлічы, колькі ўсяго тая машына сэканоміла. Каб 700 тон бульбы забуртаваць, колькі трэба людскіх рук, колькі саломы! А ўлічы яшчэ, што 10—15 працэнтаў бульбы ў бурце згніе абавязкова, гэта нават норма дазваляе. Летась была ў нас адна такая машына, а нядаўна, бачу, старшыня купіў другую. Думаюць сёлета зварыць паўтары тысячы тон. Ён, старшыня цяперашні, наконт тэхнікі, скажу табе, надта заўзяты.

Кожны дзень а сёмай гадзіне вечара ў канторы збіраецца ўсё калгаснае начальства на чале са старшынёй. Удакладняецца, што каму рабіць заўтра, каб з раніцы не бавіць часу на размовы і адразу прыступаць да работы.

На гэты раз, перш чым пачаць нараду, старшыня паведаміў, што ёсць магчымасць купіць польскі аўтакран. Усе ажывіліся.

— Калі добры кран, трэба абавязкова купляць, — сказаў інжынер калгаса Уладзімір Алімпіевіч Васіленка.

У вачах старшыні хітрынка.

— А ведаеш, колькі каштуе машына? Дваццаць тысяч!

— Нічога сабе, — чухае патыліцу інжынер. — Так, відаць, не пойдзе...

— Дарагавата,—падтрымлівае яго нехта са спецыялістаў.

— А мы свой прададзім, — раптам прапануе Леанід Іванавіч, — а новы купім. Дадуць за наш тысяч дзесяць?

— Павінны даць, — згаджаецца інжынер.

— Значыць, купляем, — падводзіць рысу старшыня.

Шчыра кажучы, гэтае рашэнне (абмазгоўвалася яно літаральна дзве мінуты) падалося мне крыху лёгкадумным. Не сотню ж другую рашылі выкладваць — дваццаць тысяч.

Помню ў Мінскім раёне калгас, які па колькасці тэхнікі ў вобласці займаў ледзь не першае месца. І вось, аднойчы, калі пачалі лічыць сабекошт прадукцыі, аказалася, што ў гэтым калгасе ён мала не ўдвая больш, чым у іншых гаспадарках. Што за ліха, столькі машын, а кожны кілаграм бульбы каштуе сабе ўтрыдарага? Потым расчухаліся. Аказалася, што тая ж самая тэхніка гэты сабекошт і падагнала. Ад кожнай машыны ідуць так званыя амартызацыйныя адлічэнні, якія разносяцца на сабекошт прадукцыі. Чым эфектыўней выкарыстоўваецца тэхніка, тым, натуральна, больш прадукцыі і тым ніжэйшы працэнт адлічэння кладзецца на яе. Але ж не ўсе любяць лічыць. А таму старшыні тэхніка была больш для форсу. Як потым даведаліся, купіў ён нават лёнацерабілку, хоць ніколі ў калгасе тым не сеялі ільну.

Расказваю пра гэтую гісторыю Леаніду Іванавічу, расказваю асцярожна, каб не пакрыўдзіць. Ён усміхаецца:

— Нам гэта не пагражае. У калгасе зараз сорак адзін трактар ды паўтара дзесятка аўтамашын, не лічачы іншай тэхнікі,—ледзь не ўдвая больш, чым было пяць гадоў назад. Але думаем яшчэ прыкупіць. Калі б спыталі ў мяне, што дало ў апошнія гады магчымасць узняць сельскую гаспадарку, адказаў бы: у першую чаргу, тэхніка. І за гэта — наша вялікае дзякуй дзяржаве. Хаця лічыць, вядома, трэба. Вунь, калі куплялі машыну для прыгатавання бульбянога корму, тойсёй вагаўся, маўляў, працаваць яна будзе толькі два—тры тыдні ў годзе, ці апраўдае грошы? Селі, падлічылі. Аказалася, за два гады машына сябе поўнасцю акупіць. Тое самае і з іншай тэхнікай. Скажам, камбайны для ўборкі цукровых буракоў. Раней жа ўсё рукамі, рукамі. Да снегу ўбіралі. Купілі тры камбайны — вочы адкрыліся. Ну, а пра бульбу і казаць няма чаго. Толькі за кошт механізацыі — а гэта і своечасовая пасадка, догляд, і, галоўнае, уборка — маем прыбаўку ўраджаю цэнтнераў у 40—50 на кожным гектары.

Што і казаць, адметная рыса сённяшняй вёскі — поўнае тэхнічнае пераўзбраенне. Лічба, калі не бачыш увачавідкі, што за ёй стаіць, не ўражвае. Звыклым вокам прабягаем мы газетныя паведамленні пра новыя дзесяткі тысяч трактараў, камбайнаў і іншых машын, выпушчаныя айчыннымі заводамі. І толькі тут, у вёсцы, пабачыўшы гэты магутны тэхнічны арсенал у дзеянні, пачынаеш разумець, як многа зроблена ў апошнія гады дзяржавай для сельскай гаспадаркі.

Радуецца старшыня Кадлубовіч вялікім зменам на вёсцы і шчыра рупіцца, каб з кожным днём яны былі яшчэ больш значнымі.

Дзяржынскі раён.

**Прэзідыум Цэнтральнага савета Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры выказвае глыбокае спачуванне члену Прэзідыума Цэнтральнага савета таварыства прафесару Чантурыя В. А. у сувязі з напаткаўшым яго вялікім горам — смерцю маці.**

# СІМФОНІЯ БАРАЦЬБЫ І ПЕРАМОГІ

На пражскую вясну гэтага года жыватворчы ўплыў аказала святкаванне 25-годдзя Пераможнага Лютага, якое шырока адзначалася па ўсёй Чэхаславакіі. Традыцыйны мітынг на Старамесцкай плошчы, на якім выступіў Л. І. Брэжнеў, яшчэ больш узняў значэнне важнай гістарычнай даты, напоўніў новым сэнсам размах сацыялістычнага будаўніцтва ў ЧССР.

Гэта адчуваеш і сёння на кожным кроку, у прыватнасці, у культурным жыцці краіны. У пяці вялікіх выставачных залах Прагі на працягу доўгага часу працавала выстаўка «Дзеячы выяўленчага мастацтва да 25-годдзя Пераможнага Лютага», у манежы Пражскага Крамля — выстаўка «Мастацтва і сацыялізм», а ў палацы «У Гібернаў»—«Перамога народа». Здаецца, сталіца Чэхаславакіі прывітала вясну 1973 года тысячамі фарбаў гэтых мастацкіх выставак. Ды і чэшскае «яро»— вясна— не паскупілася: сонца шчодра разліло цёплыя прамені, запрашаючы мастакоў з атэлье на пленеры. І на Карлавым мосце з'явіліся выстаўленыя на продаж першыя эцюды.

З усіх пражскіх выставак гэтай вясны, бадай, найбольшую ўвагу прыцягвае сваёй незвычайнасцю тая, што ў палацы «У Гібернаў». І задумваешся, ці правільна будзе называць яе выстаўкай? Бо таго, што мы звычайна разумеем пад словам «выстаўка», тут няма. Ні стэндаў, ні фатаграфій, ні дакументаў як асобных экспанатаў. Тут зліліся ў адно і музыка, і малюнак, і святло, і фарбы. І гэта вельмі ўздзейнічае на пачуцці.

Першы паверх. Наведвальнік нібы трапляе ў далёкую гісторыю чалавецтва. Святло і фарбы змяняюцца і змяняюцца. Падзеі за падзеямі, стагоддзі за стагоддзямі. Як само жыццё.

Гучаць рэвалюцыйныя песні, і перад наведвальнікамі разгортваецца панарама барацьбы працоўнага люду за свае правы, за свабоду і шчасце. Музыка даносіцца з усіх куткоў залы, яна то замірае, то імкнецца ўвысь, каб выліцца ў магутны гімн.

Нельга не здзівіцца ўсяму таму, што зроблена творцамі выстаўкі, таму, на што здольна сучасная тэхніка ва ўмелых руках. Самыя разнастайныя сродкі выкарыстаны тут: аўдыявізуальная тэхніка, камбінацыі фарбаў і святла, малюнкаў і гукаў. Ілюстрацыі дэманструюцца адначасова на некалькіх экранах з дапамогай дыяпраектараў, транспарантных эфектаў на панікальных і паўпранікальных люстрах. Уся гэтая складаная апаратура працуе ў адпаведнасці з адзіным сцэнарыем і падпарадкавана цэнтру кіравання з вылічальнай тэхнікай.

Падаюць троны, народ перамагае... І раптам усталёўваецца цішыня, такая глыбокая, што не толькі адчуваеш, а перажываеш... І задумваешся над жыццём, над сваім месцам у шэрагах будаўнікоў сацыялізму. І тады ў цішыню ўліваецца да болю знаёмае «Гэта ёсць наш апошні і рашаючы бой»... Як заклік быць заўсёды на перадавой лініі барацьбы.

Другі паверх — другая частка сімфоніі барацьбы і перамогі. У ёй — спеў міру, прыгажосць кветак, горных схілаў і шырокіх далін, пацалункі маладосці, бестурботнасць дзяцей, іх радасныя твары з непаўторнымі смяшынкамі і спакой мудрай старасці. Гэта і ёсць тая краіна, той «домаў мой», пра які спяваецца ў дзяржаўным гімне Чэхаславакіі.

Фінал музыкі—радасны, на мелодыі Дворжакавых «Славянскіх танцаў», ён падкрэслівае чалавечае шчасце.

Генеральны сакратар ЦК КПЧ Густаў Гусак запісаў у памятнай кнізе: «Цаню працу стваральнікаў гэтай выстаўкі. Я хачу, каб іх уменне, густ і мастацкае пачуццё дапамаглі нашым людзям яшчэ больш даведацца пра сябе і пра сваю перамогу».

**Ул. КАЛІНОЎСКІ.**

Прага.

# «КАМЕННАЯ КВЕТКА»

## НА СЦЭНЕ БАЛОНСКАГА ТЭАТРО КАМЮНАЛЕ

Створаны ў XIX стагоддзі балонскі оперны Тэатро Камюнале заваяваў у Італіі шырокую папулярнасць дзякуючы сваім смелым пастаноўкам цяжкіх у выканаўчых адносінах твораў. Яшчэ ў мінулым стагоддзі ўпершыню на італьянскай сцэне опера Вагнера прагучала ў Тэатро Камюнале. У апошнія гады, нягледзячы на асобныя няўдачы, тэатр прыцягвае да сябе ўвагу ўсёй Італіі, выклікаючы часам бурную палеміку, як гэта было, напрыклад, з мінулагодняй пастаноўкай «Атэла».

І вось упершыню ў краіне, як, між іншым, і ва ўсёй Заходняй Еўропе, на сцэне Тэатро Камюнале пастаўлены балет Сяргея Пракоф'ева «Каменная кветка». Пастаноўка гэтага балета, як лічаць спецыялісты, звязана з вялікімі цяжкасцямі і вядомай рызыкай. Аднак рызыка аказалася апраўданай, і поспех спектакля перавысіў усе чаканні. Крытыкі асабліва адзначаюць арыгінальную харэаграфію Лорыса Гэя, высокае выканаўчае майстэрства Карлы Фрачы (Гаспадыня Меднай гары), Аніты Кардас (Кацярына) і Джэймса Урбэна (Даніла), а таксама віртуознае суправаджэнне аркестра пад кіраўніцтвам дырыжора Пьерлуіджы Урбіні.

Тэатро Камюнале збіраецца выступіць з балетам Пракоф'ева і ў іншых гарадах Італіі, у тым ліку ў Венецыі і Фларэнцыі.

Пастаноўка балета «Каменная кветка» з'явілася першым крокам на шляху да стварэння ў Балоньі першай у краіне самастойнай балетнай трупы, якая будзе танцаваць толькі ў балетах, а не ў операх.

# АРХЕАЛАГІЧНЫЯ РАСКОПКІ Ў ПАРЫЖЫ

«Зямля — гэта кніга для тых, хто ўмее яе чытаць». Гэтыя словы Тэадора Вакера, які ў мінулым стагоддзі на працягу 50 гадоў вёў у Парыжы раскопкі для аднаўлення антычнай тапаграфіі горада, адкрываюць выстаўку «Археалогія ў Парыжы», што праходзіць цяпер у Атэль дэ Віль — будынку гарадскога савета французскай сталіцы.

Шматлікія экспанаты, прадстаўленыя на выстаўцы, — зброя, прылады вытворчасці, прадметы хатняга ўжытку, жалезны і бронзавы посуд, старажытныя ўпрыгожанні і ювелірныя вырабы, вазы, статуэткі — даюць уяўленне аб багацці археалагічных знаходак, зробленых пры раскопках у XIX—XX стагоддзях.

Большасць наведвальнікаў бачаць экспанаты выстаўкі ўпершыню, таму што раней азнаёміцца з гэтымі археалагічнымі калекцыямі, якія, пачынаючы з 1925 года, захоўваліся ў сховішчах, маглі толькі спецыялісты.

Даследаванні Вакера былі працягнуты Камісіяй старога Парыжа, створанай у 1898 годзе, аднак многія археалагічныя адкрыцці былі зроблены пасля 1955 года, калі ў горадзе пачаліся вялікія будаўнічыя і рэканструкцыйныя работы.

На выстаўцы, у прыватнасці, прадстаўлены прадметы знойдзеныя нядаўна ў час рэканструкцыйных работ, якія праводзіліся ў Люксембургскім садзе, у царкве Сен-Жэрмен-дэ-Прэ, саборы Парыжскай багамацеры, пры ўзвядзенні падземнага гаража на вуліцы Суфло.

Нядаўнія раскопкі, хоць яны не прывялі да такіх значных адкрыццяў, якія былі зроблены ў мінулым стагоддзі, тым не менш далі магчымасць скласці больш поўны малюнак жыцця Парыжа ў галарымскую эпоху, а таксама ў сярэдзіне стагоддзя.

Матэрыялы раскопак былі апублікаваны Камісіяй старога Парыжа, якая выдала таксама першы том археалагічнай карты Парыжа.





**24 мая — Дзень балгарскай асветы, культуры і славянскай пісьменнасці. У гэты дзень балгарскі народ аддае даніну пашаны стваральнікам славянскай азбукі і пісьменнасці братам Кірылу і Мяфодзію.**

**Рыльскі манастыр — адзін з найбольш каштоўных помнікаў балгарскай культуры — пабудаваны ў Х стагоддзі. У 1961 годзе манастыр ператвораны ў нацыянальны музей.**

**Самабытная архітэктура, цудоўныя фрэскі, непаўторная разьба па дрэве — усё гэта робіць Рыльскі манастыр адным з цікавейшых помнікаў балгарскага мастацтва.**

**На здымку—пакой для гасцей у Рыльскім манастыры, упрыгожаны майстрамі трэўненскай школы.**

Агенцтва **«Сафія—прэс».**

